*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 44 (532) 7 ЛІСТАПАДА 2001 г.

***У Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь ад беларускай грамадскасці***

## АДКРЫТЫ ЛІСТ

Ужо некалькі тыдняў беларускае грамадства сур'ёзна занепакоена праблемай уратавання нацыянальнага някропаля Курапаты – месца масавых бальшавіцкіх рэпрэсіяў 1930-1941 гг. пад Менскам. Гэты могільнік найбольш даследаваны сярод аналагічных мясцінаў па ўсіх кутках краіны, і з'яўляецца сімвалам агульнанацыянальнай мартыралогіі, а таксама помнікам гісторыі рэспубліканскага значэння. У апошні час над мемарыялам навісла пагроза ганьбавання і частковага разбурэння ў сувязі з працамі па пашырэнні Менскай кальцавой аўтадарогі. Будаўнічыя арганізацыі распачалі працы ў гэтым раёне паводле праекту, зацверджанага Саветам Міністраў РБ у 2000 г. На жаль, былы склад Ураду пагрэбаваў думкай грамадскасці і кулуарна вырашыў змяніць пастанову Савета Міністраў ад 1993 г., якая прадугледжвала пашырэнне МКАД на дадзеным участку па Заслаўскай аўтадарозе ("бетонцы") у абыход урочышча Курапаты. Будаўніцтва, распачатае па новым праекце, што не абмяркоўваўся з грамадскасцю, прывядзе да ганебнага пашкоджання трагічнага помніка айчыннай гісторыі і нацыянальнай памяці, а таксама да пагаршэння экалагічнай сітуацыі ў мікрараёне Зялёны Луг. Таму, як вядома, грамадскасць і мясцовыя жыхары выступаюць супраць гэтага праекту, лічаць, што яго рэалізацыя засведчыла б поўную амаральнасць яго аўтараў, заказчыкаў і выканаўцаў, стала б ганебнай плямай у гісторыі Рэспублікі Беларусь.

У сувязі з выключаным характарам гэтага помніка гісторыі, а таксама маральнай адказнасцю нашага пакалення перад памяццю тысячаў палеглых і перад нашчадкамі просім вас:

1. Перагледзець сённяшнюю праектную дакументацыю па МКАД і вярнуцца да праекту 1993 года па будаўніцтву аўтамагістралі ў абыход урочышча Курапаты – помніка гісторыі рэспубліканскага значэння;
2. Правесці добраўпарадкаванне тэрыторыі могільніка (у тым ліку правесці рэстаўрацыю мемарыяльнага знака ад народа ЗША, пашкоджанага невядомымі вандаламі), забяспечыць ахову някропаля і захаваць спакой спачылых;
3. Правесці нараду ў Савеце Міністраў РБ з удзелам грамадскасці з мэтай вырашэння гэтых пытанняў.

Спадзяёмся на мудрасць і ўзаемапаразуменне па гэтай праблеме.

З павагай:

**Акаловіч Леанід,** святар;
**Багатыроў Анатоль,** кампазітар, народны артыст Беларусі, акадэмік, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і Беларусі;
**Барадулін Рыгор,** народны паэт Беларусі;
**Баршчэўскі Лявон,** кандыдат філалагічных навук, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра;
**Белы Анатоль,** сябар Саюза пісьменнікаў, старшыня клуба "Спадчына";
**Васілеўскі Пётра,** сябра Беларускага саюза мастакоў;
**Вольскі Артур,** пісьменнік;
**Габрусь Тамара,** кандыдат архітэктуры, старэйшы навуковы супрацоўнік ІМЭФ НАН Беларусі;
**Гарэцкі Радзім,** акадэмік НАН Беларусі;
**Грыцкевіч Анатоль,** доктар гістарычных навук, прафесар;
**Дудараў Аляксей,** драматург, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і Беларусі;
**Колас Уладзімір,** дырэктар Беларускага гуманітарнага ліцэя;
**Конан Уладзімір,** доктар філасофскіх навук, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі;
**Красней Віктар,** доктар філалагічных навук, прафесар;
**Крукоўскі Уладзімір,** сябра Саюза мастакоў і Беларускай Асацыяцыі Журналістаў;
**Купава Мікола,** мастак, старшыня мастацкай суполкі "Пагоня";
**Ліцьвіна Жанна,** журналіст, старшыня Беларускай Асацыяцыі Журналістаў;
**Лыч Леанід,** доктар гістарычных навук, прафесар;
**Марачкін Аляксей,** мастак, сябра мастацкай суполкі "Пагоня";
**Маркавец Віктар,** сябра Беларускага саюза мастакоў;
**Пузыня Уладзімір,** музыкант, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры;
**Рагуля Аляксей,** прафесар БДПУ імя М. Танка, сябра Саюза пісьменнікаў;
**Русаў Пётр,** археолаг;
**Сабіла Эрнст,** пастар Беларускай Эвангельскай Царквы;
**Сакалоўская Ала,** кандыдат філалагічных навук, дацэнт Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта;
**Салавей Лія,** кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі
**Сінькова Людміла,** доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры БДУ, сябра Саюза пісьменнікаў;
**Сітніца Рыгор,** мастак, акадэмік Беларускай Акадэміі выяўленчага мастацтва
**Скарабагатаў Віктар,** заслужаны артыст Беларусі, саліст беларускай оперы, лаўрэат Дзяржаўных прэмій, дацэнт Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Музыкі;
**Скобла Міхась,** паэт, нам.гал.рэдактара выдавецтва "Беларускі кнігазбор";
**Собаль Валянцін,** кандыдат гістарычных навук, археолаг;
**Содаль Уладзімір,** літаратар;
**Судлякова Вольга,** кандыдат філалагічных навук, Менскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт;
**Сулкоўскі Уладзімір,** мастак, сябра мастацкай суполкі "Пагоня";
**Фралоў Аляксей,** музыкант, лаўрэат міжнародных конкурсаў;
**Фядута Аляксандр,** журналіст;
**Хадыка Юры,** доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар;
**Цярахаў Яўген,** эколаг, намеснік дырэктара Лошыцкага парку
**Штыхаў Георгі,** доктар гістарычных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Таксама пад Адкрытым лістом падпісаліся яшчэ 350 грамадзян Беларусі.
*(Матэрыялы на тэму Курапатаў чытайце на ст. 4 і 5.)*

## *Генадзю Цыхуну 65 – год*



**Паважаны Генадзь Апанасавіч!**

**Віншуем Вас з 65-гадовым юбілеем. Вашыя навуковыя дасягненні сталі набыткам усяго славянскага свету. Вашыя творчыя ідэі натхняюць цэлы шэраг паплечнікаў і вучняў. Ваш навуковы патэнцыял дазваляе спадзявацца і чакаць ад Вас новых лінгвістычных адкрыццяў.**

**Шчыра жадаем Вам, руплівцу і абаронцу роднага слова, моцнага здароўя, дабрабыту, здзяйснення творчых задум, плёну ў працы на карысць нашай Бацькаўшчыны!**

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**
30 кастрычніка 2001 г.

## Аб стварэнні ў г. Менску гімназіі з беларускай мовай навучання

У адпаведнасці з пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 28 жніўня 2001 г. № 48 "Аб зацвярджэнні праграмы дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" і з мэтай далейшага развіцця ўстаноў адукацыі з беларускай мовай навучання Менскі гарадскі выканаўчы камітэт ВЫРАШЫЎ:

1. Адкрыць з 1 верасня 2002 года ў Менску гімназію з беларускай мовай навучання.
2. Упраўленню адукацыі Менгарвыканкаму (Ціцянкоў М.С.):

2.1. да 1 лістапада 2001 года ўнесці прапановы па месцы размяшчэння гімназіі і яе профілю;

2.2. правесці неабходную арганізацыйную работу па стварэнні ўмоў для адкрыцця дадзенай установы новага тыпу.

3. Кантроль за выкананнем дадзенага рашэння ўскласці на намесніка старшыні гарвыканкаму Гурына В. В.

**Старшыня выканкаму М. Я. Паўлаў.**
**Кіраўнік спраў Л. М. Валодзькіна.**

RADIO FREE EUROPE RADIO LIBERTY

**БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА**

**Новыя хвалі і частоты ад 28-га кастрычніка 2001 года**

| Час | K/HZ | Хвалі |
|---|---|---|
| 18:00 – 20:00 | 612 | 41 |
| | 7190 | 31 |
| | 9615 | 19 |
| | 15460 | |
| 20:00 – 22:00 | 612 | 49 |
| | 6150 | 41 |
| | 7280 | 31 |
| | 9835 | |
| 22:00 – 24:00 | 612 | |
| | 1188 | |
| | 6010, 6170 | 49 |
| | 9845 | 31 |
| 06:00 – 08:00 | 612 | |
| | 1188 | |
| | 6140 | 49 |
| | 9635, 9835 | 31 |

**Беларусь, Менск, 220005 п/с 111**
**RFE/RL, b 3, Vinogradska 1, Praha 11000,CZ**
**Інтэрнэт www.svaboda@rferl.org**
**Настройцеся на свабоду**

# Споўнілася 4 гады ад пачатку лідскага перыяду выдання газеты "Наша слова"

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012





№ 44 (532) 7 ЛІСТАПАДА 2001 г. наша СЛОВА

Зянон ПАЗЬНЯК

# Беларуская мова

Беларуская нацыя існуе, пакуль жыве беларуская мова. Мова ёсць галоўны вынік і сродак культуры.

Калі мы над гэтым задумаемся глыбей, то адчуем, што велічнасць гэтай з'явы – чалавечай мовы – настолькі грандыёзная, што ўражвае нашу свядомасць. І сапраўды, гэта цуд культуры, матэрыялізаванае думанне і праяўлены дух. У мове мы, людзі, бачым сябе. Гэта люстэрка нашага існавання, адбітак нашых душаў.

Вытокі мовы пакрытыя хваляўнічай таямніцай, як і ўсё нашае паходжанне на Зямлі. Калі ўявіць, што чалавек развіваўся з прыроды, і паспрабаваць накрэсліць схему, зрабіць мадэль ягонага пераходу ў стан культурнага існавання, то прыходзім да высновы, што абстрактнае думанне, памяць роду (гэта значыць – гістарычная памяць) і мова ўзніклі і развіваліся адначасова і ўзаемна ўплывалі самыя на сябе.

Гэтак адбывалася самаўдасканаленне трох асноваў культуры: абстрактнага думання, гістарычнай памяці і мовы. Навуковыя даследванні чалавечай жыццядзейнасці ў старажытнасці і сведчанні простых формаў існавання чалавечага грамадства ў цэлым пацвярджаюць нашу трайстую схему развіцця свядомасці і мовы людзей.

З'яўленне мовы, як структураванага інструменту інфармацыі азначала рэзкі прарыў у культуру, у грамадскае і гістарычнае існаванне чалавека. Адначасна запрацавала зваротная сувязь. Мова стала найвялікшым сродкам культуры, дзейнічала як матор культурнага развіцця, спрыяла стварэнню чалавека разумнага, фармаванню чалавечага грамадства.

Прарыў з прыроды ў культуру адбываўся найперш праз мову. Беручы пад увагу гэтую рэвалюцыйную ролю мовы ў развіцці культуры чалавецтва, асабліва робіцца зразумелым вялікае і крылатае цверджанне аб тым, што напачатку было Слова. Мова трымае ўсё: культуру, гісторыю, памяць, грамадства, сумоўе людскіх душаў. Мова аб'ядноўвае і мацуе, вядзе за сабой. Вось ка сапраўды правільна: напачатку – было Слова (гэта значыць, на пачатку культуры).

* * *

Што яшчэ ўражвае нашае ўяўленне, дык гэта шматаблічнасць мовы. На Зямлі жыве мноства народаў і этнічных групаў, і, адпаведна, існуе вялікая колькасць розных моваў. Кожная мова, нібы шчыт, які зберагае і выдзяляе народ сярод іншых народаў, і адначасна, - гэта платформа, на якой угрунтаваная культурная індывідуальнасць чалавечай супольнасці.

Аглядаючы пісаную гісторыю людзей, мы заўважаем, што заўсёды, калі гінула мова, то гінуў і народ. Тут узаемасувязь, сутнасная дачыненні, якія глыбока і афарыстычна адлюстроўваў наш вялікі Багушэвіч. "Шануйце мову нашу, беларускую, каб не ўмёрлі", - напісаў паэт.

Шмат моваў знікла на Зямлі, і знікае па сённяшні дзень. Прычыны розныя. Але найчасцей – гэта несамастойнае існаванне (адсутнасць незалежнай дзяржаўнасці) і грамадска-палітычная сацыяльная катастрофа.

Але шмат моваў трываюць і не гінуць, не гледзячы на неспрыяльныя абставіны. Шмат якія мовы адраджаюцца, вяртаюцца да жыцця амаль з нябыту. Перадусім, тут велізарнае значэнне мае дух народа (этнасу), яго ўпэўненасць у сабе, закаранеласць у сваю духоўную культуру і гісторыю, і, як вынік, - святое шанаванне сваёй мовы і ўсяго свайго.

Грамадска-палітычная катастрофа можа знішчыць любую мову (нават самую распаўсюджаную) тады, калі зніклі, замерлі ці ліквідаваныя яе этнічныя носьбіты. Такія зявы, як генацыд, этнацыд, лінгвацыд, мнемацыд, якія вынікаюць, як правіла, з імперскай палітыкі, а таксама з ксенафобіі і нянавісці, вельмі небяспечныя для моваў найперш несвабодных народаў (посткатастрафічных супольнасцяў). Аднак разбурэнне імперыі пры пэўных абставінах таксама можа выклікаць знікненне імперскай мовы, прытым нават тады, калі існуе прызнаная імперская літаратура.

Тыповымі прыкладамі з'яўляюцца Рымская і Атаманская імперыі. Рым разбурыўся, зыходзячы з унутраных прычынаў (перш за ўсё, -- з-за ўпадку маралі). Рымская (лацінская) мова гучала ў Сенаце, сцвярджалася ў літаратуры і на ўсіх канцах імперыі. Але пад друзам гэтай імперыі была пахаваная і вялікая рымская мова, ператварылася потым у мёртвую лаціну.

Чаму так сталася? Сталася так таму, што не было ўжо этнічных носьбітаў гэтае мовы. Лацінскі этнас дэградаваў, бо стлуміў у сабе этнічную свядамасць, інстынкт аддзялення ад чужога. Этнічная свядамасць замянілася імперскай. Лаціна рымская абслугоўвала імперскую культуру, імперскую ўладу і імперскую дзяржаву. Яна адрознівалася ад этнічнай лаціны. З разбурэннем рымскай улады і дзяржавы, са стратай рымскага набілітэту, рэзка змяніліся функцыі дзяржаўнай лаціны, а ў рэальным штодзённым жыцці, на самым нізкім (вусным) узроўні не было каму на ёй размаўляць. Лаціна памерла.

Трэба ўлічыць, што імперыя (гэта значыць – імперская ўлада і імперская культура) іманентна, зыходзячы з сутнасці сваёй прыроды, імкнецца знівіляваць і разбурыць любы этнас, у тым ліку і свой, які даў пачатак імперыі.

Мова Атаманскай імперыі, у адрозненне ад рымскай мовы, узнікла на дэдуктыўным прынцыпе. Гэта была штучная мова, створаная на аснове старажытных моваў Усходу ( у асноўным, персідскай) і абслугоўвала яна якраз толькі імперскую дзяржаву, арыстакратыю, чынавенства, афіцыйную культуру і ўвогуле – вярхі. Асноўны народ імперыі – туркі – размаўляў на сваёй народнай анаталійскай (турэцкай) мове.

Пасля разбурэння і распаду Атаманскай імперыі новая Турцыя, будуючы новую нацыянальную дзяржаву, абаперлася якраз на народную этнічную мову, на якой размаўляў народ, і зрабіла яе дзяржаўнай мовай краіны. Тым часам мова Атаманскай імперыі аджыла. У ёй не было патрэбы. Са знікненнем імперскіх вярхоў на ёй не было каму гаварыць.

Калі мы звернем увагу на рускую імперыю (Расею), то заўважым там адначасна дзве схемы функцыянавання мовы: індуктыўную, з апорай на этнас, і, ў пэўнай ступені, штучную, прыдуманую форму рускай мовы, якая ў апошнім стагоддзі значна рэдуцыравалася, дзякуючы літаратуры. Тым не менш, улічваючы няспынную абсалютызацыю імперскай ідэалогіі і адпаведна – псіхалогіі, і беручы пад увагу таксама няспынную дэградацыю асноўнага этнасу, існуе вялікая верагоднасць, што пры разбурэнні расейскай імперыі рускую мову можа напаткаць нават не мёртвае ўжыванне, як у пострымскай сітуацыі, а глыбокі маргіналізм і звужэнне да лакальнага асяродку. (Заўважым, што ніякія інфармацыйныя сістэмы тут не дапамогуць.)

Тое ж самае, улічваючы цяперашні працэс асаблівай дэструкцыі ангельскага этнасу, можа напаткаць і ангельскую мову. (Як гэта каму на слых не здасца неверагодным.) Штуршок такому ходу гісторыі можа пракласці паспешны ўпадак і распад Злучаных Штатаў Амерыкі.

Гэтакая верагоднасць, па маіх назіраннях, увесь час павялічваецца і абумоўлена ўнутранымі прычынамі. У ЗША беззваротна нарошчваюцца тыя ж працэсы, што некалі ў Рыме толькі развіваюцца больш хуткімі тэмпамі. (Ізноў жа, паўтаруся, ніякія інфармацыйныя сістэмы тут не ўратуюць, бо сістэма – гэта прылада.)

Імперыя, аказваецца, не можа гарантаваць вечнага (і, тым больш жывога) існавання імперскай мовы. Значна лепш гэта спраўджвае і рэалізуе нацыянальная дзяржава, якая і ўзнікла (прынамсі, у Еўропе) у барацьбе з імперыяй. (Прытым змаганне йшло, перш за ўсё, за права існавання і развіцця нацыянальнай мовы).

* * *

Стварэнне нацыяў і нацыянальных дзяржаваў ёсць гістарычная з'ява, якая мае не толькі свае грамадзянскія прычыны, але і храналагічныя рамкі (найперш у Еўропе). Сцісла можна іх пазначыць ад апошняй чвэрці XVIII па першую чвэрць XX-га стагоддзяў. У гэты перыяд сфармаваліся і высветліліся ўсе нацыянальныя канцэпцыі культуры, свабоды і незалежнага дзяржаўнага існавання.

Як правіла, нацыянальныя рухі пачыналіся з самапазнання, асветніцтва, стварэння нацыянальнага мастацтва, літаратуры, тэатра. Потым развіваліся ў палітычнае змаганне з імперыяй і заканчваліся стварэннем нацыянальнай дзяржавы.

Уражвае ў гэтым працэсе тое, што народы паўсюдна прызнавалі і паўсюдна змагаліся за дзве асноўныя каштоўнасці: за нацыянальную мову і за незалежнасць (гэта значыць – за нацыянальную дзяржаву).

Сэнс асветніцкай і мастацкай дзейнасці быў падпарадкаваны адной мэце: сцвярджэнню нацыянальнай мовы.

Гэтую задачу найперш узялі на сябе газеты, літаратура і асабліва вандроўныя тэатры, якія ўзнікалі паўсюдна. Творца венгерскага прафесійнага тэатру Ота Келеман, які стварыў венгерскую вандроўную трупу яшчэ ў канцы XVIII стагоддзя, прызначэнне свайго тэатру і тэатральнага мастацтва сфармуляваў коратка і выразна: сцвярджэнне і прапаганда венгерскай мовы. (Венгры змагаліся тады з нямецкім засіллем.)

Аналагічна разумеў задачы тэатру Ігнат Буйніцкі і такія яго акторы, танцоры і спевакі, як Леапольд Родзевіч ды Алаіза Пашкевіч (Цётка). Гэтак жа ацэньвалі ў той час нацыянальную місію тэатру дзеячы вандроўнай сцэны на Ўкраіне, у Малдове ды Румыніі, у Балгарыі ды Сербіі, у Чэхіі, Славакіі, Летуве і г.д.

Нацыянальныя рухі ўсведамлялі нацыянальную мову як галоўную каштоўнасць нацыі, сцвярджэнню яе ў грамадстве падпарадкоўвалі ўсю сваю нацыянальна-асветніцкую дзейнасць.

* * *

Беларуская нацыянальная ідэя рэалізавалася ў 1918 годзе, калі была створана Беларуская Народная Рэспубліка і абвешчана яе незалежнасць. Аднак неўзабаве незалежнасць была страчаная, і нацыянальнай стабілізацыі не адбылося.

Расейскі камуністычны генацыд і ўсе формы вынішчэння цярпелі тры пакаленні беларусаў. У сэнсе культурным, і асабліва – псіхалагічным, 73 гады савецкай акупацыі – гэта чорная дзірка, правал у нацыянальнай свядомасці народа. Калі ў 80-х гадах XX-га стагоддзя аднавіўся беларускі рух за незалежнасць і за культурнае адраджэнне нацыі, новыя адраджэнцы (некаторыя з жахам і з роспачу) убачылі, што сутыкнуліся з узроўнем нацыянальнай свядомасці грамадства, як у канцы XIX-га стагоддзя.

Камунізм, савецкая акупацыя, вынішчэнне ўсяго беларускага фатальна затармазілі псіхалагічнае развіццё грамадства, дэфармавалі ўнутраны свет беларуса, адкінулі свядомасць мноства людзей да абсурдных мяжы.

"Зачэм этат беларускі язык?"; "Какая разьніца, на каком языке гаварыць?"; "Каму нужэн этат суверэніцет, главнае, чтобы жылась харашо" і г. д., - вось тыповыя цверджанні шмат якіх па-савецку адукаваных беларусаў канца XX-га стагоддзя.

На жаль, гэта рэальнасць, і, як кажуць, тут не да смеху. Людзі з такой свядомасцю – не рэдкасць, яны трымаюць уладу, кіруюць беларускім грамадствам. На Беларусі адбылася кансервацыя саветызму палітычнымі метадамі, з выкарыстаннем аўтарытарнай улады.

Фантасмагарычнасць сітуацыі ў тым, што пакуль вялікая частка постсавецкага грамадства паўтарае сентэнцыі, кшталту, "зачэм язык" і "какая разьніца", ні пра якую нацыянальную і сацыяльную свабоду, ні пра якое развіццё эканомікі, ні пра які дастатак і ні пра якое годнае жыццё не можа быць і гаворкі. Бо такое грамадства, якое не мае агульнасці галоўных нацыянальных каштоўнасцяў і, тым больш, адмаўляе іх, такое грамадства не ў стане абараняць свае нацыянальныя інтарэсы. Прытым не тое, што, скажам, прыродныя рэсурсы, зямлю, фінансы, прадпрыемствы, прыродныя багацці, але і асабістую працу. Такі беларус будзе шмат і цяжка працаваць, але заўсёды застанецца бедным, не разумеючы прычынаў сваёй беднасці.

Прыгадваю выпадак з пачатку 90-х гадоў. У час адной з нашых дэпутацкіх паездак па Беларусі, якія практыкавалі дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, мне прышлося чуць у цягніку размову нашых сяброў-дэпутатаў з адным заслужаным пенсіянерам-настаўнікам. Заслужаны настаўнік, беларус, з гонарам расказваў па-руску, колькі добрых людзей ён навучыў за жыццё. Адзін – генералам у Мурманску, нехта выехаў у Акадэмію навук у Пецярбург, хтосьці цяпер жыве і нешта робіць важнае ў Растове, нехта – спецыялістам у Навасібірску, а яго два сыны, дык уладкаваліся ў Маскве. Адзін – выкладчык ва універсітэце, а другі – інжынер, нечым там кіруе, жаніўся на маскоўцы і ўжо гадуе двух дзяцей. Настаўнік быў вельмі задаволены.

- А якая ў вас пенсія? – пацікавіліся ў настаўніка.

- Ой, ведаеце, малаватая, - пажаліўся ён. – Я яшчэ падпрацоўваю, маю некалькі гадзінаў у школе, бо пенсіі не хапае.

- Чаму ж так? – запыталіся ў яго. Настаўнік развёў рукамі.

- А цяпер вось глядзіце, - заўважылі мае калегі. – Вы ўсё жыццё працавалі, навучалі беларусаў на рускай мове. Беларускі ўніверсітэт (таксама на рускай мове) падрыхтаваў з іх спецыялістаў, якія паехалі ў Расею і пачалі там працаваць, даваць прыбытак рускай дзяржаве і плаціць падаткі ў рускі бюджэт. На адукацыю гэтых спецыялістаў, на навучанне іх рускай мове Расея не затраціла ні капейкі. Гэта вынік вашай працы. А дзе ж ён, гэты вынік, для вас? Дзе ваш прыбытак? З чаго ваша пенсія, з чыйго бюджэту?

- Праўда…, - здзівіўся настаўнік.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012








Зянон ПАЗЬНЯК

# Беларуская мова

- А што б было, калі б уся адукацыя была па-беларуску ў сістэме дзяржаўнай беларускай мовы? – прадаўжалі мы. – Куды была б найперш скіраваная ўвага нашых маладых спецыялістаў і ваш "труд"? Аб'ектыўна – ці ж не на вашыя інтарэсы? А што было б, калі б усю беларускую адукацыю перавесці на ангельскую мову? – працягвалі мы далей. – Да каго б мы былі прывязаныя і дзе б палягала тады прычыны нашай беднасці і бядоты: на Ўсходзе ці на Захадзе?

Настаўнік быў крыху ашаломлены. Гэты савецкі інтэлігент ніколі не задумваўся над такімі пытаннямі. Але гэтакая размова была б нармальнай дзе-небудзь у 1890-х у вагоне Лібава-Роменскай чыгункі, а не цяпер, праз сто гадоў, калі час для многіх беларусаў адначасна змяніўся і адначасна, як бачым, спыніўся ў самым пачатку.

Беларуская мова як найважнейшая з'ява культуры ёсць таксама аснова нашай нацыянальнай свабоды і найважнейшы чыннік эканамічнага развіцця.

Вось чаму нацыянальная ідэя імкнецца да стварэння нацыянальнай дзяржавы ў нацыянальнай мове і на нацыянальнай тэрыторыі. Гэта дзеля таго, каб рэалізаваць жыццёвы (гэта значыць, духоўны і матэрыяльны) патэнцыял народа, каб стварыць аптымальныя ўмовы духоўнага камфорту і матэрыяльнага дастатку для ўсёй нацыі.

* * *

Страты нацыянальнага патэнцыялу і тармажэнне нацыянальнай ідэі нават на сто гадоў, пры ўсіх ускладненнях, не выглядаюць вялікай бядой, калі б аднавіць незалежную, вольную, нацыянальную дзяржаву, якая б праводзіла палітыку ў інтарэсах нацыі. Тады зусім не спатрэбіцца яшчэ сто гадоў, каб вярнуць страчанае і дагнаць час. Бо калі знікаюць перашкоды, тады раней затармажаныя з'явы развіваюцца паскоранымі тэмпамі. Паскарэнне – гэта агульны закон развіцця растармажаных працэсаў і назіраецца ўсюды: у мастацтве, у літаратуры, у прыродзе, у грамадстве. Праз 10-15 гадоў нармальнага нацыянальнага развіцця ў паскоранасці ўжо не існавала б грамадскай адсталасці і сведамасці, тыпу "зачэм" і "какая разьніца". Але разумеючы закон паскоранасці, мы павінны ўсведамляць яго катэгарычную імператыўнасць. Тое, што было перапынена і не зроблена сто гадоў таму, на пачатку стабілізацыі нацыі, тое мусіць быць хутка (паскорана) зроблена цяпер. Пераскочыць праз абавязковыя этапы развіцця, праз абавязковыя ацэнкі і абавязковыя каштоўнасці – нельга. Яны ў аднаўленых умовах павінны быць пройдзены імкліва, хоць бы пункцірам, але абавязкова пройдзеныя і замацаваныя. Інакш з'ява (у дадзеным выпадку – беларуская нацыя) не рэалізуецца, як сістэма.

Беларусы, тыя, што, як наш настаўнік, заклапочаныя толькі "сваім" і не прывыклі задумвацца над "нашым", над агульным, мусяць выразна сабе ўсвядоміць, што калі беларуская мова не будзе адроджаная, не зойме належных ёй дзяржаўныя, грамадскія, культурныя і маральныя прыярытэты, то беларуская гісторыя можа неўзабаве скончыцца. Удакладняю: канец гісторыі – гэта катастрофа. Гэта – канец нацыі. Катастрофа суправаджаецца зьбядненнем і дэградацыяй насельніцтва, стратай уласнасці, зямлі, прыроды, дзяржавы, вынікаў працы. Нават сваёй працай чалавек перастане распараджацца сам.

Мы ўжо нешта падобнае выцерпелі ў XX-м стагоддзі. І таму цяпер, калі цудам засталіся жыць, нам цяжка падняцца з каленяў.

* * *

Функцыя нацыянальнай мовы ў нацыянальным грамадстве – усеабдымная: ад духоўнага да эканамічнага выяўлення. Аднак не ўсюды яна выяўляецца непасрэдна. І ў гэтым хаваецца адна з цяжкасцяў у разуменні сутнасці нацыянальных каштоўнасцяў для саветызаванага чалавека.

Найбольшая складанасць для новага беларускага Адраджэння палягае яшчэ і ў тым, што за сто гадоў моцна змяніліся ўмовы і дачыненні ў Еўропе. Перыяд утварэння нацыяў якраз закончыўся ў першай чвэрці XX-га стагоддзя. Нацыянальная ідэя ў міжнароднай сведамасці стала як бы не актуальная, бо гэта ўжо пражыты і пройдзены этап. А значыць аслабілася і гатовасць да міжнацыянальнай салідарнасці. З 80-х гадоў мінулага стагоддзя пашырылася ў свеце ідэя інтэрнацыянальнай дэмакратыі, узмацняецца на катурны міжнародная дактрына "правоў чалавека", узмацняюцца ліберальныя імкненні да інтэграцыі Еўропы і глабалізацыі свету. Міжнародныя дэмакраты і міжнародныя лібералы працуюць разам над стварэннем новых дэмакратычных супер-імперыяў, супер-дзяржаваў.

Для прадстаўнікоў гэтай звышідэалогіі (гэтай дэмакратыі uber alles) нашыя, актуальныя для нас, нацыянальныя праблемы стогадовай даўніны, наша балючасць, нашае роспачнае імкненне выкараскацца з той бяздоннай курапацкай ямы, куды ўсадзілі наш народ недабразычліўцы, нашае стараннне ўратаваць найперш нашу мову ды незалежнасць – усё гэта здаецца ім (шмат каму) анахранізмам. Бо ў іх мова, культура, незалежнасць – само сабой зразумелае, яны з гэтым нарадзіліся і думаюць, што ўсё гэта існуе натуральна, у парадку рэчаў, як горы, рэкі і даліны.

Але ж у нас – не так. Мы мусім, паскорана мусім (!) прайсці этап дзяржаўнага ўсталявання нацыянальных каштоўнасцяў і стабілізаваць нацыю разам з дэмакратыяй. Інакш у нас не будзе будучыні.

Мы не можам ігнараваць аб'ектыўныя законы развіцця. Нам трэба дагнаць гісторыю. Мы маем на гэта найвялікшае права. Бо нас знішчалі, нам не давалі жыць.

Побач з фактарам пераменаў, якія адбыліся на працягу XX-га стагоддзя і ўскладнілі беларускую палітыку, застаўся нязменны чыннік – Расея, з яе шавінізмам, імперскімі амбіцыямі і непрыхаванымі вялікадзяржаўнымі прэтэнзіямі на Беларусь. Гэты чыннік небяспечны. Калі б не ён, не карэляцыя і не ўзаемадзеянне яго з пераменамі ў свеце, беларускіх праблемаў у такім выглядзе, у якім яны існуюць сёння, проста ўжо б не было.

Бальшавіцкі генацыд – гэта вельмі істотны аспект у беларускай трагедыі. Ніхто не мае права і ніхто не можа падважваць і адмаўляць нашу незалежнасць, нашу беларускую мову, нашыя сімвалы, нашу свабоду, адзінства зямлі і гісторыі, не спытаўшыся тых амаль трох мільёнаў беларусаў, якіх нявінных забілі ў часе тэрору. Тых беларускіх пісьменнікаў, інтэлігентаў, вучоных і простых сялянаў, якіх расстралялі толькі за тое, што былі беларусамі.

* * *

Якая ж яна, нашая святыня для нас, Беларуская Мова? Ці можна неяк глянуць на яе збоку, каб ацаніць аб'ектыўна? Як яна гучыць для іншых, як яе ўспрымаюць?

Кожная свая мова для кожнага народа – найлепшая і найпрыгажэйшая. І гэта правільна. Бо ў мове выяўляецца сутнасць натуры народа, які яе стварыў, відаць яго душа, адбіваецца сваісты склад розуму і манера думання, матэрыялізуюцца рытмы духу і цела (гэта значыць, тэмпераменту). Таму ў кожнай мове ёсць свой характэрны рытм, свая мелодыя і сваё гучанне, а лексіка падпарадкаваная вобразнай сістэме ўспрыняцця свету людзьмі, якая ў розных этнічных супольнасцяў (першасных носьбітаў мовы) адметная.

Гэтым тлумачыцца здзіўляльная для некаторых даследчыкаў з'ява, што разумовыя і творчыя здольнасці чалавека найлепш выяўляюцца ў роднай для яго мове. Тут рэалізуецца сумоўе – гарманізацыя рытмаў, распазнаючых знакаў, найкарацейшых дарог паміж розумам, душой, тэмпераментам цела і мовай чалавека. Дасягаецца склад (камплект) аптымальнасці асобы.

Гэта не толькі тэарэтычныя развaжанні. Там, дзе можна прааналізаваць з'яву на масавых прыкладах і ў шырокай практыцы, вынікі відавочныя. У пачатку 90-х гадоў, калі ўзнікла, нарэшце, магчымасць адчыніць беларускія школы ў гарадах і развіваць беларускае школьніцтва, то праз нейкі час было зафіксавана, што беларускія дзеці ў беларускіх школах лепш паспяваюць, лепш вучацца, лепш засвойваюць матэрыял і лепш развіваюцца, чым беларускія дзеці ў такіх жа рускіх школах. Гэта натуральна. Адбылася гарманізацыя сваістага складу мовы і чалавека, аптымалізацыя развіцця асобы. Карацей, сваё спаткалася са сваім.

Аналагічную з'яву заўважылі таксама нашыя фалькларысты. Ёсць шмат сведчанняў такога роду, калі беларус, які сфармаваўся ў горадзе, у рускай мове, і ўспрыняўшы ўсе праявы савецкай эрзацкультуры, апынуўся раптам у вясковым асяроддзі сярод удзельнікаў аўтэнтычнага фальклёру і нечакана, пад уплывам эмоцыяў і ўзрушэння, уключаўся ў народныя танцы ды спевы. У яго выяўляліся характэрныя рухі танцу і характэрныя прыёмы народнага спявання. Ён пачынаў ужывацца ў фальклёрнае дзеянне, і гэтае дзеянне, невядомае яму раней, аказваецца, не было для яго чужым.

Людзі кожнага народа, кожнага этнасу валодаюць характэрнымі рухамі, якія стасуюцца з іхняй псіхалогіяй, з эмацыйным станам, думкамі і мовай, на якой яны гавораць. Гэта мы называем этнапластыкай. Гарманізацыя яе з мовай таксама накіраваная на аптымальнае выяўленне асобы чалавека.

Аказваецца, нацыянальная мова з'яўляецца не толькі галоўным чыннікам сацыяльна-палітычнага адраджэння нацыі, не толькі звязным элементам нацыянальнай культуры, але і фактарам найлепшага развіцця асобы чалавека, першаснай умовай яго гарманічнага існавання.

* * *

Аднак за 73 гады вырабленага гвалту над беларускай мовай за часы СССР, што афіцыйна прыкрываўся нібыта палітыкай білінгвізму ў Беларусі, сярод вялікай часткі насельніцтва стварылася вельмі некарысная з'ява для беларускай культуры, менавіта, крэалізацыя (дэструктурнае змешванне) беларускай і рускай моваў. У выніку шмат беларусаў (як правіла, людзей невысокага культурнага ўзроўню) гавораць цяпер на гэтакай збедненай "паўмове" ці на своеасаблівай піджын-рускай (гібрыднай) мове. (Успомнім "класічныя" прамовы Старшыні Вярхоўнага Савета Мікалая Дземянцея. Ёсць і свежыя прыклады).

Трынаццаць гадоў таму мне ўжо даводзілася пісаць пра разбуральныя вынікі прымусовага двухмоўя на Беларусі. *(Радуга, - Таллинн, 1988, №4.)* Тады беларуска-рускі "піджын" я назваў беларускім словам "трасянка", не думаючы, што гэты тэрмін прыжывецца потым у паняццях пра мову. Цяперака я паўтару тут некаторыя палажэнні.

Паўмова "трасянка" – галоўная прычына абмежаванага культурнага ўзроўню. (І цяпер мы разумеем, чаму. Крэалізацыя – гэта не ўзбагачэнне, а зніжэнне культуры мовы, якое адлюстроўвае ўпадак культуры асобы). Культурны чалавек не размаўляе на крэалізаваным піджыне. Таму сфера распаўсюджання "трасянкі" за савецкія часы – сярэднія і ніжнія стратыграфічныя сацыяльныя пласты. Грамадская лакалізацыя гэтай паўмовы, у сваю чаргу, забяспечвае рэпрадукцыю і сацыяльную ўстойлівасць "трасянкі", а значыцца, і нізкага ўзроўню духоўнай культуры, якая ў цэлым выяўляе тут тэндэнцыю да далейшага зніжэння. Яшчэ ў 60-80-х гадах стварылася сітуацыя, калі прычына і вынік бескультур'я звязаныя неразрыўна, гэта значыць, прычына (паўмова) выступае вынікам, а вынік – прычынай.

Паўмоўе значнай часткі насельніцтва Беларусі вельмі згубна адбіваецца на развіцці культуры. Разумовая энергія народа траціцца і не атрымлівае развіцця. Прымусовы савецкі білінгвізм ігнараваў аксіёму, што без вызначэння прыярытэту чалавек не можа адначасна развівацца і існаваць у двух культурах. Дызарыентаваная асоба не атрымлівае паўнавартаснага духоўнага развіцця. Паўмоўны індывідуум не адчувае тонкасцяў духоўных сувязяў (што, дарэчы, засяроджана ў мове і выяўляецца праз гаворку), дрэнна думае абстрактнымі паняццямі, часта не ў стане тэарэтычна асэнсаваць з'яву, а калі і разумее больш складаныя дачыненні, то не ўмее іх выказаць, сфармуляваць і выразна растлумачыць суразмоўцу. Пачынаецца пакутлівы падбор словаў, неадэкватнае ўжыванне паняццяў, заіканне і спыненне на кожнай дрэнна дапасаванай фразе, "эканне", "мэканне" і г.д. Тут праяўляецца не паталагічнае заіканне, а тармажэнне свядомасці, прыпыненне на кожным слове, як вынік разбалансаванасці думання і моўнага вымаўлення, як вынік неразвітых здольнасцяў аперавацца паняццямі і неваладанне сістэмнай структурнай мовы (бо ў "паўмове", між іншым, адзінай структуры няма).

Паўмоўнае існаванне прыпыняе ўнутраны спантанны працэс культурнага развіцця чалавека, таму што тармозіць нацыянальнае самапазнанне (ідэнтэфікацыю) яго грамадскага, культурнага і духоўнага "Я".

Аднак здольнасць да спажывання культуры пры гэтым застаецца. Толькі яна, гэтая здольнасць, змяняе арыентацыю з унутранага свету на знешняе асяроддзе, з актыўнай пазіцыі на пасіўную (спажывецкую). У выніку ўзнікаюць умовы для развіцця і спажывання масавай культуры, эрзацу, сурагату, імітацый духоўных каштоўнасцяў.

Шкоду, якую наносіць беларускай культуры паўмова "трасянка" (і ўвогуле, дэградацыя мовы, распаўсюджванне чужых слэнгаў, жаргонаў, вульгарызмаў, паняццяў і г.д.) ніхто не падлічваў, і, як я ўважаю, не шмат хто разумее, бо, як мяркуюць, справа ў прычынах, і з імі трэба змагацца. Правільна. Але калі б так усё было проста, то трасянкавыя палітыкі не кіравалі б уладай у дзяржаве

Найлепшы сродак выратавання беларускай мовы – гэта паўсюдна пачаць на ёй гаварыць. Гаварэм жа, і будуць нас паважаць.

* * *

Знаёмства з іншай мовай пачынаецца са слухання, як яна гучыць, з адчування яе мелодыкі і рытму словаў, якія мы ацэньваем, паводле нашага густу ці законаў эстэтыкі. Ужываюцца ацэнкі: прыгожая – непрыгожая. Спецыялісты стварылі нават адмысловую сістэму тэставання моваў па меладычнасці, гучнасці, колькасці адкрытых складоў і звонкіх зычных ды галосных гукаў, камбінацыі звонкіх зычных з галоснымі, па вакальных магчымасцях і г.д. Беларуская мова ў гэтакім тэставанні займае шостае месца ў свеце.

Наўрад ці трэба да такіх даследаванняў адносіцца надта сур'ёзна, але ўсяроўна прыемна.

Я сустракаў шмат добрых людзей сярод палякаў, латышоў, украінцаў, ангельцаў, якія былі захопленыя вымаўленнем, словамі і мелодыкай нашай мовы, прасілі пагаварыць па-беларуску і слухалі з захапленнем, нібы музыку.

Памятаю, у 70-х гадах я пазнаёміўся з маладым літоўцам з Каўнаса Ёзасам Рыбікаўскасам. У дзяцінстве ён прачытаў на пачку з макаронамі словы на незнаёмай мове. Высветлілася, што напісана па-беларуску. Ёзаса гэтая мова так зацікавіла і потым так спадабалася, што ён вывучыў яе, бегла гаварыў, нават вершы пісаў па-беларуску. Пасля ён прыязджаў спецыяльна ў Менск, каб паслухаць беларускую мову (так яму было прыемна). Праўда, у Менску яго напаткала вялікае расчараванне.

Латышская літаратуразнаўца Мірдза Абала выдатна размаўляе па-беларуску. У 70-х гадах яна сказала мне, што яе цягне на Беларусь, як магнітам, і што яна заўсёды стараецца прыехаць на Гарадзеншчыну, каб толькі пагаварыць па-беларуску ды паслухаць беларускае мовы.

*(Заканчэнне на 4-й старонцы.)*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012





№ 44 (532) 7 ЛІСТАПАДА 2001 г. Наша слова

Зянон ПАЗЬНЯК

# Беларуская мова

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 2-3.)*

У цэлым жа, я лічу, што на свеце няма непрыгожых моваў. Кожная мова – прыгожая, бо выяўляе асабовую сутнасць бясконцага, невычарпальнага, шматаблічнага Боскага свету. Гаворачы, напрыклад, пра звонкую меладычнасць італьянскай мовы, у нас звычайна ўзнікае жаданне спаслацца на дасканаласць бель-канта, на традыцыі італьянскай оперы і г.д. Але немагчыма ўявіць у італьянскай мове, скажам, тувінскі гарлавы спеў. Тым часам па сіле ўздзеяння і глыбіні выяўлення нашага, але не прывычнага нам свету і ў не прывычнай нам эстэтыцы, гэта ёсць магутнае мастацтва. Для вобразнага выяўлення яму адпавядае якраз тувінская мова. І збегі зычных тут вельмі дарэчы. Яны на месцы гэтак жа, як італьнская вакальнасць мовы на месцы ў оперным бель-канта.

* * *

Чым я найбольш захоплены ў беларускай мове, гэта яе вобразнасцю і ёмкасцю слова (і па змесце, і па гучанні). Другое, што мне надта падабаецца, гэта шматварыянтнасць гучання і напісання словаў, і потым – багацце сінонімаў. Тут рай для паэтаў, можна плаваць і купацца, плюскацца ў такой багатай мове, было б толькі што казаць.

Калі глянем у гісторыю нашай мовы, то займае дых. Беларуская мова існавала даўно, яшчэ на племянным узроўні ў дапісьмовы перыяд. На думку гісторыкаў, як мінімум, у VI-м стагоддзі, яна ўжо была. Але на самай справе – раней. Гэта можна зразумець, аналізуючы гісторыю і аўтэнтычны фальклёр (асабліва тэксты).

У Х-м стагоддзі пісьмовасць распаўсюдзілася на Беларусі разам з хрысціянствам у чужой старабалгарскай мове. Гэтая славянская мова, часткова набліжаная да беларускай, стала адыгрываць ролю афіцыйнай, кніжнай, "граматнай" мовы, мовы, на якой пішуць і размаўляюць пісьменныя людзі (найперш, светары і сацыяльныя вярхі). У пэўнай ступені, яна займала такое ж становішча ў старажытнай Беларусі, як пазней – мова вярхоў у Атаманскай імперыі. Старабалгарская мова ў беларускай культуры – гэта была мова без этнасу, гэта ад пачатку была мёртвая мова. Паступова, з развіццём грамадства і ўскладненнем функцыяў дзяржавы, адбывалася лексічнае ўзаемапранікненне моваў і экспансія жывой беларушчыны ў мёртвую кніжную мову.

Асабліва гэта стала відаць у XIV-XV стагоддзях. Ужо ў XVI-м стагоддзі, у перыяд Рэнесансу, мёртвая старабалгарская мова знікае з грамадскага ўжытку і лакалізуецца толькі ў праваслаўнай царкве, і то, як царкоўны (царкоўна-славянскі) афіцыёз. У дзяржаўных і грамадскіх дачыненнях у Вялікім Княстве Літоўскім запанавала старабеларуская кніжная мова, якая канчаткова выцесніла, запаланіла і перамагла раней-шую кніжную старабалгарскую мову.

Тут варта заўважыць, што рускія савецкія гісторыкі-шавіністы называлі старабалгарскую мову "древнерусским языком" і будавалі на гэтым цэлыя антынавуковыя канцэпцыі аб міфічным "древнерусском государстве" (пад якім падразумевалі Кіеўскую Русь і часова залежныя ад яе землі), аб "узнікненні" беларусаў, украінцаў і рускіх з міфічнай "древнерусской народности" і аб пачатку беларускай мовы з XIV стагоддзя, а беларускай гісторыі – з 1917 года.

Рускія афіцыёзныя гісторыкі прыдумвалі гісторыю, каб абгрунтаваць нібыта натуральнасць існавання СССР, расейскі каланіялізм і расейскія прэтэнзіі на Ўкраіну і Беларусь.

Я сказаў у пачатку, што, азіраючыся на гісторыю нашай мовы, займае дых. Таму што на старабеларускай дзяржаўнай мове неверагодна шмат напісана, таму, што я зачараваны яе багаццем, вобразнасцю, распрацаванасцю і харастовм. Пачытаўшы на старабеларускай кніжнай мове, разумееш, чаму Максім Багдановіч, седзячы ў расейскім горадзе Яраслаўль і акунуўшыся ў чытанне гэтай мовы, стаў вялікім паэтам. Вось жа і сапраўды, што "як ален спрагнелы, мкнець да вады крынічнай, шукаю Бога я".

Апошняя змена кніжных і афіцыйных моваў адбылася шмат дзе ў Еўропе (і не толькі ў Еўропе) у XVIII-XIX стагоддзях, у перыяд узнікнення нацыянальных рухаў супраць імперыяў, з развіццём літаратуры рамантызму і ў выніку стварэння нацыянальных дзяржаваў.

У гэты час адбываецца пранікненне ў літаратурны і афіцыйны ўжытак народнай мовы (гэта значыць мовы, на якой гаварылі спявалі шырокія масы народа). Менавіта гэтая мова стала мовай нацыянальнай літаратуры, менавіта за яе змагаліся нацыянальныя рухі, менавіта на ёй будавалася нацыянальная дзяржава і новая нацыянальная культура. Беларуская гісторыя, таксама як і гісторыя іншых народаў, добра ілюструе гэты моўны працэс.

Цяперака, азірнуўшыся за сабой, угледаючыся ў глыбіню, у наш народны лёс, можам сказаць коратка і ёмка: Беларуская мова – гэта мы.

* * *

Але ёсць яшчэ вышэйшая цана мовы, якая не вымяраецца нават жыццямі. Мова належыць усім пакаленням народа, якія жылі дагэтуль і якія будуць жыць потым. Мова належыць мінуламу і будучыні. Ніхто не мае права разбуральна распараджацца лёсам нацыянальнай мовы (а толькі станоўча), ніякі чалавек і ніякае пакаленне народу. Мова ёсць трансцэндэнтная, вечнасная каштоўнасць нацыі. Таму пытанне існавання ці абмежаванасці ўжывання мовы ніколі і нідзе не вырашаецца на рэферэндумах. Бо людзьмі (пакаленнем) могуць маніпуляваць. Не дазваляюць вынясення лёсу мовы на рэферэндум і беларускія законы.

* * *

У цяперашніх абставінах, калі ўлады рэжыму прыніжаюць беларускую мову, зачыняюць беларускія школы ды беларускія газеты, па афіцыйных крыніцах вядома, што больш за 86 адсоткаў грамадзянаў Беларусі лічаць беларускую мову сваёй роднай, але толькі каля сарака адсоткаў карыстаюцца ёй ў жыцці.

І тут узнікае пытанне, якое мне задавалі ўсюды, на якое не проста адказаць і цяжка ўсім растлумачыць. Бо не разумеюць. Пытанне гэтае гучыць так: "А чаму беларусы між сабой не гавораць па-беларуску?" Усе на свеце між сабой гавораць па-свойму. Цыганы, якія ніколі не мелі і не маюць сваіх школаў, бо не існуе цыганскай пісьмовасці, а між сабой – гавораць пацыганску. Не знойдзеш цыгана, які б не гаварыў пацыганску. Дык у чым жа справа?

Не стану і я адказваць на дзіўнае пытанне, тым больш, паўтаруся, што нідзе нас у гэтым не разумеюць. Зазначу толькі, што, для датрымання чалавечай годнасці і нават найпрасцейшага культурнага звычаю ці маральнага рушэння заўсёды патрэбнае старанне і сіла духу. У канцовым выпадку вырашае воля. Нішто не можа перамагчы волю людзей: калі яна моцная і калі яна ёсць. З гэтага гледзішча не павінна б існаваць праблемы беларускай мовы ў Беларусі. Бо заўсёды можа стацца так, як усе захочуць.

Мы мусім усвядоміць, што ў нас самых засяроджаная велізарная магчымасць: без вялікай бойкі, без грукату, бяз шуму і страт у корані перамяніць становішча і высока падняць нашу беларускую мову ў нашай краіне. Менавіта так думаюць і робяць усе ва ўсім свеце. Патрэбныя толькі хаценне, воля і добры чын.

Дык чаму ж беларус з беларусам не гаворыць па-беларуску?..

*28 верасня 2001 г. Варшава.*

Генадзь Бураўкін

# Бяспамяцтва

Яшчэ ў далёкай старажытнасці мудрацы і прарокі сцвярджалі, што, вызбіраючы самую страшную кару, Бог пазбаўляў вінаватага памяці.. І чалавек пераставаў быць чалавекам, забываў сваіх бацькоў, не памятаў дзяцей і не ведаў, дзе нарадзіўся і чым займаўся ўсё сваё свядомае жыццё. Яго можна было бясконца гнаць любым палітычным ветрам па грамадскай пустэльні, як пустое перакаці-поле, бо не было ўжо ў яго ні зямных, ні духоўных каранёў і не разумеў ён, дзеля чаго і з кім прыйшоў у гэты свет. Недарэмна заваёўнікі ўсіх імперый сваё панаванне над новымі рабамі пачыналі якраз з вынішчэння "варожых" гістарычных помнікаў і святых кніг, з выхавання ў маладых пакаленняў толькі іхняй ідэалогіі, толькі іхняй ваяўнічай памяці. Дзеля гэтага яны палілі на вогнішчах летапісы, зрывалі з храмаў крыжы і купалы, малявалі чужыя для "тутэйшых" абразы і ставілі на плошчах сваіх прывезеных на гарматных лафетах мармуровых ці бронзавых ідалаў. І невыказана радавалася, калі заняволены людзі, а то і цэлыя народы, пакорліва прымалі іхнюю волю і іхнія звычкі.

Ох, як, на жаль, знаёма ўсё гэта нам, беларусам, у якіх доўга і настойліва розныя "дабрадзеі" стараліся калі не ўкрасці, дык як мага далей схаваць айчынную гісторыю, зняславіць любімых апосталаў і герояў, вырваць язык – забараніць нашу лагодную і пявучую мову! Засоўвалі на задні план першага ўсеславянскага друкара Францішка Скарыну, аб'яўлялі цемрашалкай асветніцу Еўфрасінню Полацкую, запісвалі ў авантурысты і разбойнікі непахіснага змагара за волю Кастуся Каліноўскага. А пра душу народа і казаць няма чаго. Сумнавядомы губернатар Паўночна-Заходняга краю Мураўёў-вешальнік па-салдафонску ясна і рашуча пісаў: "У паўночна-заходнім краі так званую беларускую мову неабходна звесці на нішто, бо, калі гэтага не зрабіць, яна пастаянна будзе інспіраваць думку аб асобным беларускім народзе і аб праве гэтага народа на этнічную самастойнасць і нацыянальна-дзяржаўную суверэннасць, чаго дапусціць нельга". Сучасныя трубадуры "небывалай інтэграцыі" выказваюцца больш дыпламатычна, але хіба не тое ж гавораць нядаўні баявы генерал, а цяпер думскі парламентарый А. Нікалаеў: "... Мы адзін народ – руския, украінцы, беларусы... Наша адзіная культура, адна мова са сваімі асаблівасцямі..." Відаць, і гэты інтэлігентны, усмешлівы на першы погляд расійскі дзеяч усур'ёз лічыць, што мы забылі мураўёўскія "рэцэпты" і згодны на ціхае канання ў абдымках дужага і дасведчанага брата, якое пакуль што асцярожна называецца аб'яднаннем ці асіміляцыяй. Ён, як і блізкія яму па духу селязнёвы-бабурыныя, ужо, мабыць, упэўнены, што мы "саспелі" да дзяржаўнага і ўсялякага іншага зліцця з Расіяй. Тым больш, што з гістарычнай памяццю ў нас сапраўды ёсць нямала праблем. Прычым датычаць яны не толькі вякоў мінулых, а і гадоў нядаўніх.



Зноў ускалыхнулі грамадскую думку Курапаты, месца наколькі трагічнае, настолькі і вядомае, а ў нейкім сэнсе нават сімвалічнае для цэлага перыяду дваццатага стагоддзя. Не сціхаючы, як мокрае гарыцы, ужо не адну пяцігодку ўсчынаюць дыскусіі самазваныя гісторыкі і археолагі ў старых суслаўскіх фрэнчах пра тое, хто ляжыць ва ўтравелых братніх магілах каля Менска – ці ахвяры сталінскіх рэпрэсій, ці расстраляныя фашыстамі замежныя яўрэі, ці тыя і іншыя разам. Даўно пара б ужо ва ўсім канчаткова разабрацца, і гэта ўрэшце рэшт зрабілі ажно некалькі афіцыйных камісій, даўшы адназначнае заключэнне: у Курапатах пахаваны бязвінна знішчаныя органамі НКУС нашы суайчыннікі. Але двухсэнсоўна маўчаць улады, не спяшаюцца паставіць помнік, спакойна глядзяць, як у пакутніцкім лесе крышаць вандалы мемарыяльныя знакі. І нарэшце вырашылі пакласці паблізу магілак шырокую асфальтаваную дарогу – хай імчыць па ёй шыкоўныя іншамаркі, хай гудуць на ёй цяжкія тракі, трывожачы вечны спакой загінулых, а то і падмінаючы іхнія недатлелыя косці. Хіба нармальная цывілізаваная дзяржава такое сабе дазволіць? Хіба не скалынецца ад задуманага нават каменнае сэрца?.. Ах, як хочацца таму-сяму выкрасліць з калектыўнай памяці цэлыя старонкі далёка не гераічнай мінуўшчыны!

А чаго варты "глыбінныя" змены, прынесеныя не так даўно на Беларускае тэлебачанне новым, а цяпер ужо і былым кіраўніцтвам! З экранаў без папярэджання і тлумачэння зніклі перш за ўсё адукацыйныя праграмы, звязаныя з нашай гісторыяй, літаратурай і мовай. Зноў прачынаецца знаёмая задача: звузіць для юных беларусаў магчымасць далучыцца да традыцый продкаў, не даць ім усвядоміць самабытнасць і прыгажосць і нашых песень ды казак, і нашага мастацкага слова, хітра падсунуўшы ўзамен безаблічна маладзёжныя шоў і надакучлівую балбатню няпрошаных, павярхоўных каментатараў. Вось і шумныя, з купецкім размахам "Дажынкі" ўжо каторы год ладзяцца не ў адпаведнасці са старажытнымі беларускімі абрадамі, а па пажоўклых сцэнарах бюракратычных мерапрыемстваў – з прамовамі прававадыроў, раздачай падарункаў і "танцамі да ўпаду"...

Ды што казаць пра недасканалую дзяржаўную памяць, калі і з персанальнай, так бы мовіць, бываюць пытанні. Зусім нядаўна са зразумелай цікавасцю знаёміліся мы са складам ураду Рэспублікі Беларусь, угледваліся ў твары новых кіраўнікоў, учытваліся ў іх біяграфіі. Беларусы, рускія, украінцы, нават адзін балгарын. Кожны са сваёй прафесіяй, са сваім родным кутком. А вось у Л. Мальцава, У. Навумава, В. Астапава, А. Паўлоўскага, К. Сумара, як аказалася, няма нацыянальнасці. Дзіва, ды і толькі! Я не думаю, што не ведаюць яны нацыянальнасці сваіх бацькоў або саромеюцца яе. Чаму ж тады забыліся назваць? Што ў іх раптам стала з памяццю?..

У вельмі папулярнай у свой час песні нашага земляка Марка Фрадкіна і паэта Роберта Раждзественскага былі такія словы: "Нешта з памяццю маёй стала – усё, што было не са мной, помню". Можа, гэта і нядрэнна, калі мы добра памятаем, што было ў Амерыцы і Францыі, у Польшчы і Расіі. Але ж перш за ўсё трэба заўсёды помніць, што было з намі, на нашай зямлі, і не дазваляць ні сабе, ні нашчадкам, ні роднай дзяржаве ні пры якіх абставінах упадаць у бяспамяцтва, бо за ім, як паказвае досвед чалавецтва, - духоўная пагібель...

*("Беларускі час", 12. 10. 2001 г.)*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







# Дарога ў Курапаты – гэта шлях у нікуды

Зараз у Курапатах ідзе супрацьстаянне паміж прадстаўнікамі грамадскасці і уладамі, якія вырашылі пракласці новую акружную шашу якраз праз мемарыяльны комплекс, які, дарэчы, стаіць на дзяржаўнай ахове. Традыцыя знішчаць беларускія могілкі пад выглядам новабудоўляў у царскіх і савецкіх уладаў вельмі даўняя і трывалая.

Яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. на магілах Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў у Вільні граф Мураўёў загадаў зрабіць спартовую пляцоўку для расейскіх афіцэраў.

У часы грамадзянскай вайны бальшавікі знішчылі шмат мірнага насельніцтва ў выніку класавых і канфесійных чыстак. Былі расстраляны сотні святароў і манахаў, прадстаўнікоў дваранства, буржуазіі і шляхты. Бальшавікі змагаліся не толькі з жывымі, але і з нябожчыкамі. Былі апаганены мошчы святых, разрабаваны сотні багатых пахаванняў дваран, гандляроў, фабрыкантаў, былых уладальнікаў маёнткаў і замкаў.

Пахавальны абрад рэзка змяніўся. Адпяванне нябожчыкаў у храмах было практычна забаронена. Замест крыжа на надмагільных помніках з'явілася пяціканцовая чырвоная зорка.

У 30 – 40 гадах XX ст. на тэрыторыі БССР узнікаюць таемныя масавыя пахаванні ахвяраў сталінскага рэжыму. Месцы гэтых пахаванняў органы НКУС трымалі ў вялінім сакрэце.

Таксама былі пад вялікай забаронай магілы чальцоў Арміі Краёвай, што змагалася на тэрыторыі Заходняй Беларусі, як з фашыстамі, так і з бальшавікамі. Пасля апошняй вайны фактычна ўсе нямецкія могілкі на Беларусі былі знішчаны.

У 60-70-х гадах вандалы пачалі знішчаць і мясцовыя могілкі ў тых выпадках, калі на іх ужо не праводзіліся пахаванні, а іх тэрыторыя апынулася пасярод жылых кварталаў вялікіх беларускіх гарадоў. У гэты час у Менску былі знішчаны канчаткова яўрэйскія, татарскія, лютэранскія, праваслаўныя "Старажоўскія" могілкі і старыя дваранскія могілкі каля кінатэатра "Спартак". Дзеці гулялі з чарапамі і косткамі нябожчыкаў, а разбітымі надмагільнымі помнікамі брукавалі дарогі і вуліцы.

У часы хрушчоўскага змагання з рэлігіяй на Палессі і Заходняй Беларусі знішчылі практычна ўсе прыдарожныя крыжы і капліцы, устаноўленыя мясцовымі сялянамі. Былі разбураны альбо пашкоджаны надмагіллі мясцовых эліт (святароў і шляхты), пахаваных побач з касцёламі альбо цэрквамі. На дзейных могілках вандалы-бязбожнікі масава ламалі крыжы, як сімвалы хрысціянства.

Асобная гаворка можа ісці пра стан аховы мемарыяльных помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Фармальна, у асноўным на паперы, ахове дзяржывы падлягаюць як помнікі археалогіі – курганы і курганныя групы X – XIII стст., так і шматлікія пахаванні савецкіх салдат, афіцэраў і партызан. Таксама пастаўлены на ахову некалькі дзесяткаў магіл некаторых беларускіх пісьменнікаў, мастакоў і дзеячоў палітыкі і культуры. І гэта ўсё. На самой справе ў газетах увесь час ідзе інфармацыя аб шматлікіх масавых актах вандалізму на сучасных могілках, за якія ніхто не караецца.

Даўно настаў час прыняць асобны закон прысвечаны пахавальнай справе на Беларусі і ў ім адлюстраваць прынцыпы і парадак аховы і выкарыстання ўсіх нашых мемарыяльных помнікаў і комплексаў.

Аднак вернемся да Курапатаў. Зараз у афіцыйным друку ідуць размовы аб кампрамісе, у выніку якога дарога праз Курапаты праходзіць у пашыраным варыянце за кошт часткі тэрыторыі помніка гісторыі.

Уладаў не хвалююць маральна-этычныя праблемы звязаныя з гэтай будоўляй, бо ім, бачыце, бракуе грошай на абхадную дарогу. На лядовыя палацы грошы ёсць, на прэзідэнтскія выбары таксама,нават на шыкоўны юбілей БДУ грошыкі маюцца, а вось на захаванне помніка нашай сучаснай гісторыі іх чамусьці няма. Няўжо нікому з нашых чыноўнікаў ні пра што не гаворыць трагедыя на станцыі метро "Няміга", якую збудавалі на старых менскіх могілках?

Дарога праз Курапаты можа быць месцам якой-небудзь жахлівай аварыі ў будучым, бо лёс заўжды помсціць вандалам і бязбожнікам. Шмат якія камуністы і камсамольцы памерлі надобрай смерцю пасля таго, як збівалі крыжы на храмах ці могілках, альбо рабавалі святыя мошчы ці магілы. Ці не здарыцца гэтая ж гісторыя з тымі, хто пагоніць свае бульдозеры на асвечаныя курапацкія крыжы?

Кампраміс, на маю думку, можа палягаць толькі ў наступным. Шырыня існай дарогі праз Курапаты застаецца ранейшай. Будаўнікі робяць падземныя пераходы, новае дарожнае пакрыццё, новыя трывалыя земляныя адхоны па абапал дарогі пакрытыя зялёным дзірваном і ставяць часовы мемарыяльны знак перад галоўнай курапацкай сцяжынай. Усе крыжы застаюцца стаяць, як народная памяць.

Хуткасць на гэтым невялікім кавалку дарогі павінна зніжацца да 40 км. Праз пэўны час будуецца абхадны кавалак хуткаснай дарогі вакол Курапатаў і праблема здымаецца раз і назаўжды.

Калі дзяржава не здолее гэта зрабіць, людзі могуць сабраць за некалькі год неабходныя сродкі і зрабіць новую шашу за народныя сродкі.

Сённяшнія ўлады Беларусі мабыць не думаюць аб тым, што яны таксама некалі памруць і ўзнікне праблема з іх уласным пахаваннем. Няўжо яны хочуць дачакацца лёсу пахаванняў і перапахаванняў Сталіна ці Брэжнева? Дарэчы. у нашай краіне няма нацыянальнага Пантэона і аб гэтым трэба паклапаціцца, а не варушыць святую курапацкую зямлю.

*Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў.*

## Каханне і творчасць у каменнях



У нацыянальным музеі гісторыі і культуры адкрылася выстава "Каханне і творчасць у каменнях". Палотны, на якіх фарбы перамешаны з паўкаштоўнымі камянямі, ствараюць пейзажы і нацюрморты, склалі гэтую экспазіцыю. Спецыялісты называюць гэтую тэхніку інкрустацыяй і адзначаюць складанасць такой работы. А выканаў яе Андрэй Яўменаў, якому 19 гадоў. Усе гэтыя гады з-за цяжкай хваробы - цэрэбральнага паралічу, ён прыкаваны да інвалiднай каляскі. Моц духу ён выхаваў у сябе сам, а тварыць навучыўся ў Цэнтры вольнага часу інвалідаў - "Інвацэнтры" Беларускага таварыства інвалідаў.

**На здымку:** работа Андрэя Яўменава "Акно".
**Фота Аляксандра Талочкі, БелТА.**

## *Паведамленне*
### *пра пачатак працы гурткоў беларускай вышыўкі і бісераплецiва*

*Селета на базе ТБМ збіраюцца пачаць працу гурт (для дарослых) па беларускай вышыўцы і дзіцячы гурток па бісерапляцiву. Плануецца правесці навучальныя курсы, якія будуць прадугледжваць, як тэорыю, так і практыку вышывання і бісераплецiва. На прыканцы навучальнага года плануецца выдаць усім слухачам, паспяхова вытрымаўшым іспыты, пасведчанне аб заканчэнні курсу і арганізаваць 3-4 тыднёвую выставу ў памяшканнях ТБМ, на якой будуць прадстаўлены працы слухачоў курсаў.*

*Курс навучання будзе праходзіць у выглядзе заняткаў, падзеленых на дзве часткі. На працягу першай часткі, будуць вывучацца і канспектавацца тэарэтычныя матэрыялы. У другой палове – замацоўваць тэорыю ў практыкаваннях.*

*Удзельнікі гуртка беларускай вышыўкі **"Зара-зарніца"** будуць займацца вывучэннем характэрных асаблівасцяў беларускага народнага арнаменту, навучацца чытаць узоры на тканых ці вышываных вырабах і складаць новыя арнаменты па законах традыцыйнага дэкаратыўна-ужытковага мастацтва, а таксама выкарыстоўваць на практыцы атрыманыя веды для стварэння вышываных ручнікоў, абрусоў ці кашуляў.*

*Удзельнікі гуртка бісераплецiва **"Пацеркі"** будуць займацца вывучэннем прыёмаў бісераплецiва і, выкарыстоўваючы беларускія мастацкія традыцыі, навучацца ствараць сучасныя вырабы з бісеру.*

***Заняткі будуць праводзіцца кожны тыдзень (субота) на працягу 8 месяцаў.***
***Дадатковую інфармацыю зацікаўленыя могуць атрымаць у Алены Кірэевай па тэлефонах ТБМ: 213-43-52, ці 275-40-92 (хатні).***

# Вядомы беларускі пісьменнік на плакаце ААН

24 кастрычніка беларуская грамадскасць адзначыла чарговы юбілей стварэння ААН, арганізацыі, якую заснавала, у тым ліку, і Беларусь.

На ўрачысты прыём з гэтай нагоды Прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь запрасіла прадстаўнікоў улады і апазіцыі вядомых дзеячоў культуры, навукі і мастацтва. Сярод іх прысутнічаў і старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў. Памяшканне Міжнароднага адукацыйнага цэнтра ў Менску, дзе адбывалася ўрачыстасць аздаблялі розныя плакаты ААН, у тым ліку і плакат прысвечаны вызначэнню чалавечай свабоды. Сярод іншых тут ёсць партрэт сябра Рады ТБМ вядомага пісьменніка Уладзіміра Арлова, які дае вызначэнне свабоды, як адчуванне, ***"што ты свой чалавек у сваёй краіне"***.

*Наш. кар.*




© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

№ 44 (532) 7 ЛІСТАПАДА 2001 г. Наша слова

# Артраскоп Аляксея Марачкіна

Шмат выстаў ладзіць на сваіх плошчах самая вялікая ў нашай краіне Нацыянальная мастацкая галярэя, што месціцца ў сталічным Палацы мастацтва. Кожная з іх – падзея, больш ці менш значная, ў культурным жыцці Беларусі. Кожная з іх мае свае адценні, свой каларыт, сваю энергетыку, бо кожны творца непадобны адно да аднаго. Індывідуальнасць.

Гэтымі восеньскімі днямі Палац мастацтва знаходзіцца нібыта ў палоне "Пагоні" — адной з буйных, вядомых і самых паслядоўных у сваёй творчасці суполак Беларускага саюза мастакоў, якая яднае ў сваіх шэрагах нацыянальна свядомых майстроў выяўленчага мастацтва. Фактычна тры выставы, арганізаваныя "Пагоняй", адбываюцца тут адначасна. І як ніколі моцна, выразна на тых выставах адчуваецца. атмасфера беларушчыны, што, дарэчы, адпавядае назову гэтай мастацкай галярэі.



Анатоль Грыцкевіч прамаўляе на адкрыцці выставы

Адна з экспазіцый, што адкрылася 18 кастрычніка, падсумоўвае вынікі шасці плянэраў імя Язэпа Драздовіча, якія з году ў год адбываюцца па ініцыятыве і на голым энтузіязме апантаных мастакоў творчай суполкі пры падтрымцы Культурна-асветнага цэнтра , які носіць імя нашага слыннага суайчынніка, мастака Язэпа Драздовіча. Экспануюцца творы жывапісу, графікі, керамікі, дэкаратыўна-ужытковага мастацтва. Цікава ўпісаліся ў экспазіцыю фотамантажы, зробленыя на плянэрах. Яны нібыта суправаджаюць гледача на другі паверх галярэі, дзе разгорнута юбілейная экспазіцыя твораў мастака Аляксея Марачкіна "Разам з "Пагоняй".

Аляксей Марачкін – адзін з ініцыятараў і арганізатараў творчай суполкі, яе першы кіраўнік цягам васьмі гадоў - не ўяўляў персанальнай выставы без удзелу ў ёй сваіх сяброў, "пагонічаў". Калектыўны розум супольнікаў падказаў арыгінальнае рашэнне па максімальным выкарыстанні невялікай для такога аб'яднання мастакоў экспазіцыйнай плошчы. Кампактна, па цэнтры галярэі на спецыяльных шчытах і подыюмах размясціліся творы сяброў суполкі, усяго па адной працы і то далёка не ўсіх мастакоў "Пагоні" Яны ахвяраваліся дзеля таго, каб у свае 60 юбіляр змог паказаць хоць тое, самае значнае, што створана ім. Творы Аляксея Марачкіна месцяцца ў асноўным па перыметры галярэі і нібыта ў моцных абдымках, як у сваім сэрцы, трымаюць міні-экспазіцыю сяброў.

Дзве выставы ў адной зале не выпадковасць. Рэч у тым, што толькі такім чынам суполка "Пагоня" змагла адзначыць і свой 10-гадовы юбілей, бо кіраўніцтва Беларускага саюза мастакоў запланаваную яшчэ на вясну гэтага года юбілейную экспазіцыю "пагонічаў" фактычна само ж і адмяніла.

Сёлетняя выстава Аляксея Марачкіна, восьмая па ліку, самая вялікая па колькасці паказаных тут твораў. Большасць з іх – жывапісныя палотны розных гадоў, ад пачатку ягонага творчага адліку, першага ўдзелу ў моладзевай выставе 1966 года, да сённяшняга дня. Хоць пачатак гэты, па-праўдзе, сягае ў маленства, калі будучы мастак кволым пальчыкам па запацелых шыбах, а пасля алоўкам і фарбамі даваў волю сваёй фантазіі. І вось вынік гэтых шматгадовых пошукаў перад гледачом.



Экспазіцыя выставы

Цяжка вылучыць з экспазіцыі нейкія працы. Пра кожную з іх можна шмат распавядаць. На мой погляд, ніводнай з іх нельга адмовіць у майстэрстве і глыбіні задумы. І яшчэ. Усе яны нібыта выпраменьваюць святло шырокай і добрай душы мастака, яго шчырыя пачуцці да гісторыі і культуры народа. У кожным творы – суладдзе думак, колераў і вялікая любоў да сваёй Бацькаўшчыны. Можа таму такую лёгкасць і чысціню адчуваеш ад таго, што можна ўбачыць на выставе. Для мастака асабліва дарагі адзін з яго ранніх, 1973 года, партрэтаў "Бабка Марыля", які папярэднічаў шырока вядомай серыі карцін "Дзеячы гісторыі і культуры Беларусі". Гэта быў першы твор, набыты Нацыянальным мастацкім музеем. Мастак на выставе паўстае перад гледачом у розных жанрах жывапісу — станковая карціна, нацюрморт, краявід, партрэт, Усе яны паяднаныя роздумам пра сваю Радзіму. Тут можна бачыць партрэты Еўфрасінні Полацкай, Вітаўта Вялікага, Кастуся Каліноўскага, карціны – "Суладдзе", "Чаканне", Чароўныя арэлі", "Летнія чары". Напісаныя ў розныя гады, яны не пакідаюць гледача абыякавым. Асабліва хочацца адзначыць ужо згаданы твор "Чаканне". Ён вылучаецца незвычайна пранізлівым настроем і гучыць, як споведзь аўтара перад сваёй Радзімай, перад жанчынамі, ад якіх ва ўсе бакі разляцеліся іхнія дзеці. Так і стаяць нашыя маці, маўклівыя і адзінокія, як манументы страчаных вёсачак і страчаных надзей.



На адкрыцці выставы : Мікола Купава, Ніл Гілевіч, Анатоль Грыцкевіч, Уладзімір Пузыня, Аляксей Марачкін, Ірына Марачкіна...

Адметная старонка творчасці мастака – маляваныя дываны. Гэты арыгінальны від мастацтва быў асабліва распаўсюджаны ў Заходняй Беларусі ў першай палове мінулага стагоддзя. Жыхары Глыбокага да гэтай пары ўспамінаюць, як на кірмашах у нядзелю народныя майстры развешвалі на платах свае рознакаляровыя малявідлы. На чорным фоне гарэлі яркімі фарбамі кветкі Глыбоччыны, Дзісеншчыны, падымаліся з нябыту старажытныя замкі. Збіраючы спадчыну Язэпа Драздовіча, Аляксей Марачкін захаваў для нашчадкаў цудоўныя маляваныя дываны гэтага майстра. Дзякуючы Марачкіну і іншым руплівцам сёння мы маем неацэнную калекцыю, якая знаходзіцца ў Заслаўскім гістарычна-культурным музеі-запаведніку. Па ўсім відаць, гэты від народнага мастацтва, як і ўся творчасць Язэпа Драздовіча, паўплывалі на майстра. Па ўзоры тых маляванак ён стварае серыю арыгінальных, незвычайнага характара дываноў, з якіх у экспазіцыі выставы – "Два львы", "Паўлюк Багрым". "Пагоня", "Страцім-лебедзь", "Бацькі".

Упершыню на гэтай выставе мастак паказвае гледачу свае акварэлі. Аляксей Марачкін лічыць, што акварэль – гэта Боскі матэрыял. Вада і суша, фарба і папера. Каляровая вада разліваецца на паперы натуральна, нязмушана. Поўная свабода для фантазіі мастака. На выставе больш за 20 акварэляў, у тым ліку і раннія графічныя лісты, дзе пазнаецца знаёмыя вобразы выбітных людзей нашага часу — Зоська Верас, Лявон Луцкевіч, Уладзімір Караткевіч, Зянон Пазьняк. Пазней мастак стварае шэраг акварэляў, дзе апявае прыгажосць жаночага цела. Гэтае бачна ў творах паводле рамана Лонга "Пастушыная гісторыя пра Дафніса і Хлою". Вечная тэма кахання і па-сёння хвалюе творцу.

Кожны раз майстра пэндзля здзіўляе гледача шырынёй свайго творчага дыяпазону, сваіх творчых навацый, нечым арыгінальным. У свой час ён надаў новае жыццё аджыўшым свой век старым дзвярам, размаляваўшы іх фарбамі. На гэты раз у экспазіцыі распісныя прасніцы, сабраныя на Віцебшчыне. У формах гэтых прасніцаў чуецца водгулле, рэха старасветчыны. Мастаку толькі варта дакрануцца пэндзлем да фактуры, і ўжо перад гледачом нібы паўстаюць дзіўныя вобразы прашчураў, вобразы даўніх сівых стагоддзяў. Праз дзірваны мінулых гадоў творца як бы раскопвае і даносіць да нас




А. Марачкін. Канцлер ВКЛ Леў Сапега.

тое, чаго мы не ведаем, што мы, магчыма, забыліся.

Наогул выстава гэтая як каляровы калейдаскоп захапленняў майстра. Сам Аляксей Марачкін лічыць яе своеасаблівым ягоным археалагічным *АРТРАСКОПАМ*.

*Ірына Ляксеева.*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







# Беларускае мастацтва ў Саўт-Рыверы

***У ЗША выйшаў мастацкі альбом "БЕЛАРУСКІЯ МАСТАКІ Ў ЗАМЕЖЖЫ", прысвечаны 25-годдзю пачатку арганізацыі мастацкіх выставаў у Саўт-Рыверы пры царкве Св. Еўфрасінні Полацкай. Прапануем чытачам уступнае слова Янкі Запрудніка да альбома, а таксама спіс удзельнікаў гэтых выставаў за 25 гадоў. У альбоме прадстаўлены 21 мастак беларускага замежжа. Рэдакцыя мае намер пазнаёміць нашых чытачоў з гэтымі мастакамі і іх творамі.***

## ЯК ГЭТА ЎСЁ ПАЧАЛОСЯ

Запачаткаванне мастацкіх выставак у Саўт-Рыверы пазначыла свайго роду новы гістарычны этап у жыцці беларускай грамады.

Сталася гэтва вынікам завяршэння пабудовы ў 1972 годзе царквы Св. Еўфрасінні Полацкай, а пры ёй – вялікай залы са сцэнай, кухняй, барам ды іншымі памяшканнямі. Усё гэта размясцілася на маляўнічай ускраіне горада на прасторным пляцы ў тры акры. Паміж царквой і залай ды навокала іх было дастаткова месца на паркінг, пасадку памяткавых дрэваў ды курганак з помнікам беларускім героям.

Новае месца спрыяла нараджэнню новых ініцыятываў.

Ідэю выставаў падалі старэйшыя грамадскія дзеячы Барыс Шчорс, Ксенафонт Вайцяхоўскі, Іван Касяк, Антон Даніловіч ды іншыя. Яны падказалі маладшым сябрам, што ў грамадзе ёсць дастаткова экспанатаў, каб наладзіць паказ. І сапраўды, сярод беларусаў Саўт-Рыверу і навакольных мясцінаў было ці мала людзей таленавітых і творчых.

Апрача гэтага, на руках у людзей знаходзіліся народныя вырабы, якія можна было сабраць разам для паказу і сабе самім, як напамін пра Бацькаўшчыну, і чужым, як аповяд пра яе.

Ініцыятыва мастацкіх выставаў неўзабаве знайшла сваіх энтузіястаў. Асабліва энергічна ўзялася за справу маладая выпускніца мастацкага каледжу ў штаце Пенсільванія Ірэна Рагалевіч (пазней – Рагалевіч-Дутко), якая праз усе далейшыя гады выдатна выконвала ролю кіраўнічкі выставак.

На першы паказ у 1973 годзе было сабрана, хто што меў, і экспанатаў набралася даволі, каб пераканацца, што насамрэч паказваць ёсць што. Першая выстава сагрэла сэрца і арганізатарам, і наведнікам. Пасля яе людзі пачалі знаходзіць у сябе іншыя цікавыя рэчы. І на далейшыя паказы экспанатаў набіралася ўжо нават больш, чымся хапала месца на сценах і сталах для размяшчэння іх. Даваялося рабіць адбор.

Час выставаў спалучалі з сакавіковымі ўгодкамі абвешчання (25 сакавіка 1918 года) незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі – найбольш урачысты момант у ідэйна-культурным жыцці грамады. Як правіла, выстава адчынялася ў нядзелю за тыдзень да сакавіковага святкавання. Папаўдні ў гэты дзень прыхаджанне царквы Св. Еўфрасінні Полацкай і запрошаныя госці сыходзяцца ў залу Беларускага грамадскага цэнтру, багата запоўненую экспанатамі. Тут працы мастакоў, у тым ліку, часамі, з Беларусі: умельцаў, фатографаў, народныя вырабы (дзяружкі, вопратка, вязанне), а таксама іншыя прыгодныя экспанаты, прысланыя з Бацькаўшчыны (прыкладам, дзіцячыя выявы чарнобыльскай катастрофы). На выстаўляных малюнках паказаныя: краявіды (пераважна беларускія, але таксама і амерыканскія), флора і фаўна Беларусі, архітэктура, партрэты (у тым ліку постаці беларускай гісторыі), абразы і інш. ды кніжныя выданні нью-ёркскага Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва. Усе экспанаты размешчаны на сценах і на пакрытых дзяружкамі сталах.

Адчыняе выставу мастачка Ірэна Рагалевіч-Дутко, вітаючы наведнікаў, прадстаўляючы ім мастакоў-удзельнікаў ды запрашаючы публіку да грашовых ахвяраванняў на пакрыццё коштаў пачастунку, якім завяршаецца агляд-спатканне.

У наступную нядзелю ў гэтай-жа ўдэкараванай мастацтвам зале праходзіць урачыстае святкаванне ўгодкаў абвешчання незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, на якое прыходзяць і свае, і госці, у тым ліку, прадстаўнікі мясцовых уладаў, а часамі і кангрэсмен.

Мастацкія выставы ў Саўт-Рыверы сталіся выяўленнем вернасці замежных беларусаў ідэалу свабоды краіны свайго паходжання, довадам іхніх намаганняў узгадоўваць маладое пакаленне на грамадзянаў Амерыкі, якія ведалі-б пра Беларусь, ейную культуру і ейныя праблемы.

25-гадовая традыцыя мастацкіх выставаў у Саўт-Рыверы, якую замацавалі сваім удзелам у выставах каля двухсот асобаў (гл. спіс прозвішчаў), вартая таго, каб яе ўшанаваць гэтым альбомам.

**Янка Запруднік.**



## УДЗЕЛЬНІКІ

На выставах паказвалі свае абразы і іншыя экспанаты (вышыванкі, тканіны, паясы, шкатулкі, фатаграфіі і інш.) наступныя асобы:




Агуновіч Эдвард
Альхоўскі Іван
Альхоўскі Павел
Альхоўскі Сяргей
Андраюк Ольга
Андраюк Эля
Анішчык Алесь
Анцута У.
Анцута Ю.
Андрусішына Юля
Аргасінскі Е.
Арцішэнка Соня
Арцішэўская Святлана
а. Бандарук Канстанцін
Барысавец Ксаверы
Батэруортс Ірэна
а. Боўбель Сцяпан
Бахар Галіна
Бахар Ганна
Бахар Люба
Бахар Нік
а. Башко Дзмітры
Башко Софія
Блюм Кеты
Брынкевіч Галіна
Будавей М.
Бычкоўская Зося
Бэйгін Роберт
Вало Аляксандар
Варанцова Тамара
Вініцкі Яраслаў
Вайтэнка Ганна
Высоцкая Параскева
Вэрдар Ірэна
Гайшун Казя
Гайшун Наталля
Герліц Казя
Гінгрыч Галіна
Гінгрыч Соня
Грабовіч Глорыя
Грант Адам
Грант Кіра
Грэбень Алёна
Грэбень Мікола
Гурына Марыя
Гетман Таня
Даманава Прося
Даніловіч Моніка
Данілюк Джэніфер
Данілюк Марыя
Дашкевіч Марыя
Дземідзенка Я.
Дземкіна В.
Дубінін Алекс
Дубовік Сяргей
Дубяга Жэня
Дульскі Мікалай
Дутко Мікалай
Дутко Тамара
Дэ Марка Р.
Евец Аркадзь
Евец Раіса
Жаўнярові́ч Віктар
Жураўлевіч Іван
Жыдовіч Марыя
Занкавіч Аўген
Занкавіч Жэня
Захаркевіч Надзея
Заяц Ірэна
Згірская Ніна
Зыбайла Пётра
Зэкаў Валеры
Кажура Марыя
Казлякоўскі Юзік
Кайка Вера
Каліноўская-Даніловіч Лідзія
Каліноўскі Алег
Калтуновіч Іван
Калюцік В.
Камінкова Валя
Капура Янка
Капытка Сяргей
Каранеўская Стэфанія
Каранцэвіч Ніна
Касцюк Ліля
Касцюк Мікалай
Касцюк Рэня
Коўш Вера
Кінг Гелена
Кіпель Зора
Кіркевіч Аўген
Кляшчук Анатоль
Крыштаповіч Алесь
Крыштаповіч Сяргей
Кудасава-Запруднік Надзя
Лапіцкая Валянціна
Ласцюк Р.
Лявіцкая Ольга
Літаровіч Ліза
Літаровіч Люда
Літаровіч Наталля
Літвінава З.
Лосік Г.
Лучко Міраслаў
Ляхноўскі Паша
Манцывода Пелагея
Манцывода Юры
Маркавец Віктар
Маркавец Таццяна
Мартусевіч Ольга
Мартынава К.
Масіенка Ала
Махнюк Алег
Махнюк Аліцыя
Махнюк Люда
Махнюк Віктар
Медзьвядок Таіса
Міранові́ч Ліда
Міранові́ч Пётра
Міранюк Вольга
Місюк Таня
Наумчык Дарыя
Навумчык Марыя
Наўмовіч Міхась
Нядзвецкі Пётра
Орса Наталля
Орса Ніна
Паўлавец Уладзімір
Рагалевіч Валя
Рагалевіч Лора
Рагалевіч-Дутко Ірэна
Рамана Ала
Раманоўскі Аляксандар
Раманюк Міхась
Русакевіч А.
Рудзько Я.
Рудак Людміла
Русак Галіна
Русак Люда
Савёнак Апалонія
Сапяжынскі Якуб
Саўчыц Пётр
Селяванава Марыя
Семянчук Аня
Сенька Валя
Сянькоўскі Г
Сільвановіч Алекс
Сільвановіч Андрэй
Сільвановіч Ніна
Сільвановіч Ірэна
Сільвановіч Лена
Сітнік Уладзімір
Скараход А.
Скаўронскі Аўген
Скварчэўскі Аўген
Стагановіч Аляксандар
Стагановіч Марыя
Стагановіч Тамара (мал.)
Станкевіч Раіса
Сташэўская З.
Ст. Тамара
Стукаліч Ганна
Сугойдзь Вадзім
Сурвіла-Шыманец Івонка
Сурвіла Паўлінка
Сямёнава Аляксандра
Сямёнава Раіна
Такаюк Андрэй
Талмацэвіч Таня
Тарасевіч Лявон
Тарашкевіч Ольга
Татум Леаніла
Траскевіч Патрыцыя
Троіцкая Надзея
Тумаш Вітаўт (ст.)
Тумаш Ксеня
Тумаш Яраслава
Удавенка Вадзім
Уладыка Жэня
Урыўская Крысціна
Урыўская Ніна
Ханяўка Марыя
Цудзік Мікалай
Цыган Давід
Цярпіцкая Жэня
Цярпіцкі Віталь
Чайкоўскі Анатоль
Чайкоўскі Дзмітры
Чыгіровіч Сяргей
Швед Соня
Шудзейка Валянціна
Шчорс Клава
Шчорс Марыя
Шчорс Софія
Шчорс Таіса
Шыманец Уладзімір
Якімчук Марыя
Янцэвіч Уладзімір
Яўтуховіч Валерыя

***Друкуючы гэты спіс мы пераследуем адну мэту: паказаць настойлівасць нашых суродзічаў у захаванні нацыянальнай самабытнасці, што ніякія амерыкі не могуць забіць у тваёй душы беларуса, пакуль ты сам да гэтага не папусцішся.***

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012





№ 44 (532) 7 ЛІСТАПАДА 2001 г. Наша слова

# ВІТАЛЮ КАЖАНУ НА 85-Я ЎГОДКІ

9 кастрычніка сёлета сп.. Віталю Кажану споўнілася 85 год жыцця. З гэтае нагоды хачу сказаць колькі словаў пра гэтага выдатнага суродзіча.

Калі вымяраць жыццё чалавека, у дадатак да патрыятызму, меркаю ягонай працоўнай дысцыпліны і акуратнасці, дык да ліку чэмпіёнаў трэба ў першую чаргу залічыць сп. Кажана. Ён – сваеасаблівы рэкардсмен: ад кастрычніка 1949 года – гэта ўжо 52 гады! – выконвае абавязкі скарбніка Рады БНР. З году ў год, як руплівая пчала, сп. Кажан збірае ў скарбніцу Рады так патрэбныя грашовыя фонды. З іх карыстае не толькі Рада БНР. Ці раз давалася дапамога з касы Рады і іншым арганізацыям, у тым ліку Беларуска-Амерыканскаму Задзіночанню ды Беларускаму Інстытуту Навукі і Мастацтва.

Сп. Кажан, былы афіцэр – чалавек нязвычайнай працавітасці. Былі гады, калі ён мусіў займацца рассыланнем па цэлым беларускім свеце падпісных лістоў на "Дар Сакавіка" ды напа-мінаў радным аб іхных за-легласцях. Работа гэтая вымагае вялікай арганізаванасці: трэба трымаць і стала абнаўляць адрасную картатэку, акуратна весці касавыя кнігі, своечасова адказваць на запыты, сачыць за разасланымі падпіснымі лістамі. Кожны год – гэта сотні і сотні разасланых канвертаў, якія трэба заадрасаваць, наклеіць маркі, у час здаць на пошту. Мала таго, сабраныя грошы трэба ўмець улякаваць у такім банку, дзе нарастаюць максімальныя працэнты. Усё гэта выглядае шэрай працай, але сп. Кажан выдатна разумее ейнае вялізарнае значэнне, і дзякуючы такому разуменню ён, як сапраўдны падзвіжнік, вядзе справу фінансаў Рады БНР ужо больш як поўстагоддзя. На кожнай сесіі Рады БНР сп. скарбнік бярэ ўдзел у як найлепшай форме: дае дакладную фінансавую справаздачу і адказы на ўсе звязаныя з ёй пытанні.

Сп. Віталю Кажану спрыяе і дапамагае ў ягонай вялікай грамадскай працы сям'я: жонка Люба і дзеці Ларыса, Аўген, Маргарыта і Юля з сем'ямі. Гэтая акалічнасць, думаецца, ці мала дадае да заўсёднае энергіі сп. Кажана, з якою ён ставіцца і да сваіх грамадскіх абавязкаў, і да беларускае нацыянальнае справы наогул, якою інтэнсіўна цікавіцца і якую актыўна падтрымвае.

Годнаму юбіляру на ягоныя 85-я ўгодкі працавітага жыцця ды ягонай сям'і хочацца выказаць глыбокую падзяку за самаахвярнасць ды шчырыя пажаданні добрага здароўя і ўсякае памыснасці. Гледзячы на такіх людзей, лягчэй вымаўляць "Жыве Беларусь!"

*Янка Запруднік.*

# КРЫЧАВУ – 865 ГОД



Святочным тэатрэлізаваным шэсцем адзначыў сваё 865-годдзе Крычаў. Аказваецца, ён на цэлых дзесяць гадоў старэй за Маскву.

**Фота Валерыя Бысава, БелТА.**

# ТРАНСЛЯЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ ІНТАРЭСАЎ

## РЭЙТЫНГАВЫ АРКУШ № 3

Месца вызначаецца па каэфіцыенту трансляцыі беларускіх інтарэсаў (КТБІ).

КТБІ у друкаваным СМІ вызначаецца як адносіны плошчы беларускамоўнага тэксту да агульнай плошчы выдання. Фотаздымкі залічваюцца ў беларускамоўны тэкст у выпадку калі падпісаны па-беларуску, альбо калі, непадпісаныя, адносяцца да беларускамоўнага тэксту. Для падліку КТБІ вымяраюцца плошчы з нумароў выдання за тыдзень.

| | |
|---|---|
| Літаратура і мастацтва | – 1.000 |
| Наша Ніва | – 1.000 |
| Наша слова | – 1.000 |
| Раніца | – 1.000 |
| Навінкі | – 1.000 |
| Чырвоная змена | – 0,999 |
| Культура | – 0,998 |
| Звязда | – 0,991 |
| Голас Радзімы | – 0,952 |
| Настаўніцкая газета | – 0,808 |
| Тыднёвік Магілёўскі | – 0,762 |
| Наша свабода | – 0,644 |
| Пагоня | – 0,632 |
| Сям'я | – 0,468 |
| Згода | – 0,411 |
| Беларуская маладзёжная | – 0,389 |
| Народная воля | – 0,388 |
| Молодежный проспект* | – 0,344 |
| Народная газета | – 0,276 |
| Белорусская лесная газета* | – 0,244 |
| Паляўнічы і рыбалоў | – 0,242 |
| Слонімскі веснік | – 0,177 |
| Вдохновение* | – 0,175 |
| Рабочы | – 0,123 |
| Де-факто* | – 0,094 |
| День* | – 0,089 |
| Наша доля | – 0,083 |
| Зямля і людзі | – 0,072 |
| Рэспубліка | – 0,071 |
| Магілёўскія ведамасці | – 0,047 |
| Беларускі час | – 0,045 |
| Веснік Магілёва | – 0,030 |
| Свободные новости* | – 0,016 |
| Гаспадыня (часопіс) | – 0,009 |
| Могилевская правда* | – 0,005 |
| 7 дней* | – 0,003 |

У гэтым, трэцім па ліку, рэйтынгавым лісце з'явіўся шэраг назваў газет, якія, па маім ранейшым меркаванні, не павінны былі б з'явіцца. А менавіта, газеты з рускамоўнымі назвамі. Раней, як зазвычай, яны не друкавалі матэрыялаў на беларускай мове. але сёння, пра гэтую з'яву ўжо можна гаварыць, як пра факт. Таму я вымушаны памяняць сваю думку, што звычайна газеты з рускамоўнымі назвамі маюць толькі нулявы КТБІ. Усяго я налічыў такіх газет восем і яны пазначаны зорачкамі пры назвах.

*"Беларускі інтарэс", № 3, кастрычнік 2001 г.*



Прэм'еру казкі-фантазіі "Чарадзейная скрыпка" па матывах твораў беларускага пісьменніка Алеся Гаруна паказаў віцебскім гледачам у дні гастроляў Менскі драматычны тэатр "Дзе-Я?". Пастаноўку ажыццявіў рэжысёр тэатра Сяргей Кавальчык, мастак - Алена Груша, кампазітар - Цімур Каліноўскі.

**На здымку:** сцэна са спектакля "Чарадзейная скрыпка".

**Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.**

**Шаноўнае спадарства!**

**Пасля летняга перапынку зноў распачала сваю дзейнасць Бібліятэка ТБМ.**

**Расклад нашае працы:**

| | |
|---|---|
| Аўторак | 15.00 – 18.00 |
| Чацвер | 15.00 – 18.00 |

**Ласкава запрашаем!**

## Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!

***Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Пачалася падпіска на газету ТБМ "Наша слова" на першы квартал 2002 года. Цана на падпіску падрасла, але практычна ўвесь рост выкліканы ростам тарыфаў пошты, аднак, не гледзячы на гэты рост, нашая газета застаецца адной з самых танных культуралагічнай газетаў Беларусі. Пры гэтым мы і толькі мы забяспечым вас усёй інфармацыяй па праблемах беларускай мовы ў нашай краіне. За 2508 рублёў вы будзеце на працягу паўгода штотыднёва мець у сваёй хаце самую беларускую газету на Беларусі.***

***Цана ведамаснай падпіскі складае 2784 рублі на паўгода.***

***Мы просім усе арганізацыі ТБМ правесці падпіску на газету "Наша слова" для бібліятэк і школаў сваіх гарадоў і раёнаў. Для кожнай арганізацыі -- гэта рэальная справа, для газеты -- рэальная магчымасць выжыць.***

**Ф. СП - 1**

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2002 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| | | |
|---|---|---|
| ПВ | месца | літар |

на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 2508 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2002 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча,ініцыялы)

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012





**Алесь Петрашкевіч**

# ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ ПА-БЕЛАРУСКУ

(Сатырычная камедыя)

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**ЯНКЕЛЬ.** Калі ў вашай пажарнай акадэміі ўсе такія таленавітыя выхаванцы, як вы, дарагі Тарас Тарасавіч, то скажыце: ці ж мы зможам напаіць усіх абарыгенаў праз мой пісюнчык, каб кліент не скардзіўся?

**ТАРАС.** Пачакай, дарагой Янкель Янкелевіч, да твайго пісюнчыка мы шчэ вернемся, калі фірма складзецца.

**ЯНКЕЛЬ** *(задаволена)*. Разбі мяне пярун, але я да гэтага думаў: там, дзе сядзіць габрэй, няма чаго рабіць татарыну. Аказваецца, там дзе сядзіць яцьвяг, не толькі габрэю з татарынам, але і паляку рабіць няма чаго, не кажучы ўжо пра гэтых без'языкіх і бязмозглых тутэйшых. *(Паляпвае па плячы Янку-нямко).*

*Тарас Тарасавіч рагоча. З'яўляецца Юзаф Тадэвуш з гармонікам, а Ахмет Ажгірэй з кейсам.*

**АХМЕТ.** Бяры, сасык шейтан алсынъ!

*Тарас забірае кейс, адкрывае, пераконваецца, што там грошы.*

**ТАРАС.** Якшы! *(Камандуе.)* На ўрачыстую прэзентацыю фірмы "Тарас і Ко" под знамя пролетарыяту ста-но-вы-ы-сь! Смірна!.. Тры-чатыры...

*Усе спяваюць гімн БССР. Юзаф акампануе. З сваёй кватэры выязджае ў крэсле Іван Іванавіч. Да яго паслужліва кідаецца Янка-нямко і падвозіць да самага стала. Іван Іванавіч рукою вітае прысутных нібы той вертыкальны свой любячы электарат.*

**ІВАН.** Ну что, друзья-товарищи, сегодня тоже погоняем дурачка, обсудим международное, обговорим внутреннее, обменяемся о текущем? *(Тасуе карты).*

**ТАРАС.** Не, шаноўны Іван Іванавіч, ганяць дурачка не будзьмо. Така моя прапазіцыя...

**ІВАН.** Тогда останься в меньшинстве, а я решу этот вопрос подавляющим консенсусом на базе плюорализма. И не я буду, если электорат не поддержит своего сенатора...

**ТАРАС.** Пры чым тут я, калі гэтыя *(паказвае на прысутных)* мілыя суседзі цябе ўдзелалі і держат за дурня з першага дня маскоўскага путчу, а тачнее з таго часу, как ты з райкому перасеў на спірт.

**ІВАН** *(злуецца)*. А короче и точнее ты бы мог, а то я что-то не врублюсь?..

**ТАРАС.** Не тарапісь – урубішся.

**ЯНКЕЛЬ.** Вы думаеце, ён бы сам без нас урубіўся?..

**ТАРАС** *(Янкелю Янкелевічу)*. Памаўчы, падсудны! *(Івану Іванавічу)*. А я магу сказаць точна, каротка і пратакольна ясна.

**ІВАН.** Ну-ну...

*Янка-нямко ніяк не можа ўзяць скутымі рукамі раму, абцягнутую брызентам і скуголіць перад Тарасам Тарасавічам.*

**ТАРАС.** Грамадзянін Янкель мае свой спіртавод з твайго завода ў камок гражданіна Ахмета-агльі. *(Здымае з Янкі-нямко кайданы)*. Апошні разводзіць яво да кандыцыі і разлівает у тару, якую збірает на сметніку спадар Нямко, калі яго можна назваць спадаром. Ёсць і такая версія, што яны прысабачылі сваю трубу да тваёй цыстэрны з тваёй жа згоды, і ты ёсць галоўны карумпір і тайны агент уліяння.

**ІВАН.** Вот как?! И что же дальше?..

*Янка-нямко выносіць некуды рамы.*

**ТАРАС.** Дзіўнае пытанне... Але калі ты не ў курсе, то я паясню. Гэтая спіртавая мафія задавальняет нужды таго люмпену, які ходзіць на мітынгі і крычыць за савецкую ўладу, ПКБ і асобую зону сувярэннай Белорусі і Расіі. А гэта ўжэ дзяржаўная здрада, хоць ты і сенатар з мандатам.

**ІВАН.** Со мной не торопись! А с этими троими мне ясно. Но роль пана Юзафа прошу пояснить.

**ТАРАС.** У яго найлепшая роль. Он рабует нарабаванае...

**ЯНКЕЛЬ.** І яшчэ як рабуе...

**ТАРАС.** Памаўчы, Рокфэлер! У паследнім слове на судзе скажаш... пасля шаноўнага Івана Іванавіча... Он будзет гаварыць першы, як асноўная крымінальная фігура.

*Янка-нямко вяртаецца.*

**ІВАН.** А ты, дорогой, не шутишь под первое апреля?

**ТАРАС.** Ды ўжо такія шуткі, што проста не знаю, што і рабіць. Але ж як бы не былі мне гадкія вашы злодзейскія рожы, усё адно вы мне – дарагія суседзі. І маёру Тарасу Галапузінскаму не з рукі выносіць мусар з нашага інтэрнацыянальнага пад'езду, бо што за Бугом скажут, калі рускаязычный сенатар акажацца галоўным зладзюгаю, а я завяду крымінальную справу на нацыянальныя меньшасці?! Хоць на карэннага тутэйшага *(ківае на Янку)* я мог бы і завесці гэту справу, бо калі б гэты Нямко не забяспечыў вашу мафіёзную банду тараю, ёй не было б у што разліваць. І калі ты, наш дарагі народны слуга і партайгеноссэ, не ў курсі гэтага спіртаводу або маеш алібі, то кажы сваю дзяржаўную прапазіцыю, а я гэтым зладзюгам зраблю хоць шокавую тэрапію, хоць шок без тэрапіі.

**ІВАН** *(рашуча)*. Я скажу! Уж им я скажу!... *(Ускоквае з крэсла, амаль крычыць).* Воры! Подлецы! Живоглоты! Нувориши! Лицемеры! Змеи подколодные, а не соседи! Банда, а не пролетарский интернационал! *(Б'е Нямко па шчацэ. Распаляецца яшчэ больш, бегае вакол стала.)* В тот самый момент, когда страна на грани краха, беспредела, когда народ обнищал до всякого возможного предела, когда несчастная партия перебивается из кулька в рогожку, когда ветеран ветерана похоронить не может, а кандидаты в президенты, как вороны, друг на дружке глаза выклёвывают, когда население больше вымирает, чем рождается, когда всё, что можно было разворовывать, разворовано и распродано, когда своё правительство на четвереньках, на животе ползает перед российским газпромом, выпрашивая на пропитание, когда мы, сенаторы и наши вожди вынуждены, как старыя проститутки, искать, кому продаться хоть за "деревянные", когда народ готов в любую зону, а Позняк в президенты, эти сволочи, эти мерзавцы, эти мародеры, эти подпольщики, конспираторы и леваки, эти... *(Захлынаецца ад абурэння, закашліваецца).*

*Нямко бяжыць па ваду, а Тарас Тарасавіч таўчэ Івана Іванавіча ў плечы.*

**ТАРАС** *(з абурэннем да злодзеяў)*. От, прахіндзеі, да чаго давялі партыйна-дзяржаўну наменклатуру!..

*Вяртаецца Янка-нямко з кубкам вады.*

**ІВАН** *(адпіўшы вады і адкашляўшыся, вельмі ціха і дужа спакойна, але цвёрда і выразна)*. В тюрьму всех четверых! На каторгу! В Сибирь! На Колыму!

**ЮЗАФ.** Заткніся, Ваня! Я ж табе не бедны габрэй, не затурканы татарын і не знямелы тутэйшы! Я естэм поляк! І мне до дупы, якая курва ў якой зоне збіраецца аддаца маскалям за драўляныя ці за так. Мая праграма мінімум, як, між іншым, і праграма пана акалотачнага, калі я правільна яго зразумеў, зрабіць цябе шостым у нашай не вялікай кумпаніі. Пшылончайся, стара курва, до млодэй банды нуворышув.

**ІВАН.** Ну и нахалюга!

**ЮЗАФ.** Абрыдла быць ахвярай нахалюг. Умовы такія: вы ў пецярох праз тую Янкелеву трубу будзеце даіць родную незалежную і сувярэнную, а я ў сваю чаргу буду даіць вас. Пана акалотачнага мы ўжо далучылі да цёплай справы добрым хабарам.

**ЯНКЕЛЬ.** А вам і хабар не трэба. У вас у самога ў руках мільярды, трыльёны, калі ўлічыць, як п'юць рускамоўныя з тутэйшымі.

**ІВАН.** А если Тарас Тарасавич всё-таки доведёт вас до жесткой скамьи?..

**АХМЕТ.** Сядзем мы, сядзе і Тарас Тарасавіч. Яхшы сядзе!

**ЯНКЕЛЬ.** Каб мне "воли не видать", як сядзе. Гэта вам, як стары дэсідэнт, кажу.

**ЮЗАФ.** А на судзе, дарагі Іван Іванавіч, мы вас агаворым...

**АХМЕТ.** Са згоды дырэктара, скажам, мы да той цыстэрны прысмакталіся. Беднаму фуркъаре татар бір шей джоймах нечага губляць.

**ІВАН.** Как это всё понимать?!

**ЮЗАФ.** Перад табой, Ванёк, не проста "прочно сложившаяся преступная группа", а нармальная камерцыйная рынкавая структура пераходнай эпохі ад кірмашовага сацыялізму да нармальнага капіталізму.

**ЯНКЕЛЬ.** Далучайцеся да нас, Іван Іванавіч, а то вам няёмка будзе, калі стане вядома, што мы нібыта з вашай згоды да той цыстэрны, як ён кажа, прысмакталіся.

**ІВАН.** Вы, оказывается, не просто воры, а еще и шантажисты?! Грэйсэр мошенники?!

**ЯНКЕЛЬ.** Очань інцярэсна, што б вы самі рабілі, калі б грэйсэр машэннікі заціснулі вас, як ён *(ківае на Тараса)* зацісную нас?

**ТАРАС.** З вышыні яго дэпутацкага ды дырэктарска-сакратарскага трону я найперш папытаў бы вас, какой талшчыны трубу вы прысабачылі да яго цыстэрны. А шчэ, Іван Іванавіч, табе даўно стоіла бы знаць свой крэдыт-дэбіт і асабліва сальда таго спірту. Бо праз тваю трубу он наліваецца, а праз яго *(ківае на Янкеля)* – выліваецца. Такая задачка...

**ІВАН.** Кстати о трубе, а точнее о цистерне, из которой выливается... А еще точнее – я хотел бы знать, каков диаметр, через который выливается?..

**ЯНКЕЛЬ.** Пабойцеся бога – які там "диаметр"?! Там капельніца, а не "диаметр"! Гадзінамі сядзіш крукам у той яме, пакуль накапае. Іншы раз думаеш: ой, доннэр вэттэр цум тойфель, што па-вашаму азначае: гары яно ўсё гарам к чортавай мацеры...

**ІВАН.** Не уклоняйся и отвечай, как на суде перед помилованием! Сколько крадешь в сутки и как давно, чтобы я мог вывести то самое сальдо?

**ЯНКЕЛЬ** *(да прысутных)*. Как вам нравіцца такой вапрос? Можна падумаць, што я краду адзін і больш за іншых... Як той казаў, вашы б турботы ды на маю галаву. І не трэба думаць, што Янкель, напіханы грашыма. Каб нешта, не дай Бог, зноў здарылася і Янкелю зноў бы давялося ўцякаць, то ўсе яго бэбіхі змясціліся б на багажніку ровара пана Юзафа.

**ЮЗАФ.** Не чапай Юзафа, ён да вашай маліны ні фармальна ні юрыдычна не належыць. У яго благародны статус савецкага рэкіціра. Фактычна сярод вас я проста Робін Гуд. А ты лепш гавары, пра што ў цябе дзяржаўны чалавек пытаецца. І не траць часу.

**ЯНКЕЛЬ.** Навошта я буду гаварыць пра тое, пра якое ў мяне нават сам таварыш маёр не пытаўся?.. От як ён падшмуруе мае моэсы, па-вашаму падлічыць мае грошыкі, а ты прызнаешся, колькі ў мяне нацягаў, тады няхай ён вам і скажа...

**ІВАН.** Лично я тебе не майор! Я у тебя "хабара" не брал! Я раскалю тебя, как Бог черепаху! Дай мне наручники, майор!

**ЯНКЕЛЬ** *(хавае рукі за спіну)*. Дажыў Янкель убачыць грошы і вот табе, пажаласта... "Дай мне наручники, майор!"

**ІВАН.** Или руки на стол или ответ на вопрос: сколько сырца берешь в день?!

**ЯНКЕЛЬ.** Бачыць Бог – удзень ні кроплі, як сцямнее – чатыры каністрачкі ў тыдзень нацэджваю.

**ІВАН** *(здзіўлена)*. Сколько, сколько?..

**ЯНКЕЛЬ.** Ну, скажы ты яму, Ахмет...

**АХМЕТ.** На дзве соценькі паўлітэрак, калі вытрымліваць градус якасці...

**ІВАН.** Торгуете без выходных?..

**ЯНКЕЛЬ.** Без...

**ІВАН** *(падлічвае)*. Двести поллитровок на восемь и пять нолей в уме. Пятьдесят две недели на шестнадцать – и семь нулей в уме. На троих?!

**ЮЗАФ.** Проша пана, на дваіх! Я і моя жона Лёдзя естесь мы людзі шляхетні і бралі з пячуркі па-малу і толькі апошнім часам!

**ІВАН** *(нечакана і з абурэннем)*. Крохоборы! Старцы! Портачи! Халтурщики! Сто шестьдесят миллионов в неделю через капельницу?.. Бездельники!!!

**ТАРАС.** Не праз капельніцу, а праз пісюнчык немаўляткі, як Янкель паказаў раньшэ!

**ІВАН.** Вы что, господа хорошие, настоящего писюна никогда не видели?! Или только обрезанные?

**АХМЕТ.** Відзелі мы ўсякія... І абрэзаныя і надточаныя.

**ЯНКЕЛЬ.** Толькі навошта нам большы. Вы думаеце, вялікая радасць цягаць гэтыя каністры, як той дурань дзверы?..

**ІВАН** *(да Тараса)*. У них что, своей машины нет?..

**ТАРАС.** Была ў собакі хата...

**ІВАН** *(абурана)*. Разявы! Кустари-одиночки без мотора! Нэпманы паршивые! Напасть на такую жилу и так испохабить идею перестройки и первичного накопления, программу рыночных отношений и маркетинга с ускорением. С вами, недотепами, не только в капитализм не врастешь, но и в феодализм стыдно сунуться. Первобытно-общинный строй...

*Усе здзіўлены і ніхто нічога не разумее.*

Янкель, друг мой ситный, скажи, как на духу, ты можешь припаять к моей цистерне хотя бы вот такую трубу! А лучше вот такую! (Паказвае, якой таўшчыны). Ну, такую, чтобы в нее, скажем, голова пролезла, как в ствол орудия "Авроры". А еще лучше, чтобы ты сам через нее пролезть мог. Чтобы ее не запрудило до полного и окончательного перехода от недоразвитого социализма к процветающему капитализму, а там и до феодализма с железным веком рукой подать!

**ТАРАС** *(насцярожана)*. Іван Іванавіч, можэт, нам другую часць нашай сесіі за зачыненымі дзвярыма, так сказаць, конфендэнцыяльна правесці? Без прэсы... Але пры ўдзеле Нямко, які хай бы тым часам папільнаваў коспіратыўную нараду.

*(Працяг у наступным нумары.)*



№ 44 (532) 7 ЛІСТАПАДА 2001 г. Наша Слова

Аляксандр Талерчык

# ПАРЭЦКІЯ НАСТАЎНІКІ

Пасля задушэння паўстання 1830-1831 гг. і закрыцця Віленскага універсітэта, як расадніка крамольных ідэй і вызвольных настрояў, навучальная справа ў Беларусі была зусім разладжана. Жаночыя навучальні пры клештарах былі зачынены. У 1834 г. засталося 7 гімназій, 12 павятовых навучальняў і 6 навучальняў для дзяцей мяшчан. Гэтых школ было мала, і давалі яны адукацыю толькі для дзяцей шляхты, чыноўнікаў і святарства. Сялянства заставалася неадукаваным. Але ўмовы другой паловы XIX ст., звязаныя з адменай прыгоннага права і фармаваннем капіталістычных адносінаў, вымусілі ўрад адклікнуцца на запатрабаванні часу аб пашырэнні сеткі пачатковых школаў. Пачалі адчыняць вясковыя школы ў першую чаргу для дзяржаўных сялян. Да катэгорыі дзяржаўных былі аднесены сяляне вёскі Парэчча Слонімскага павету пасля таго, як маёнтак і вёска, якія раней належалі Міхалу Валовічу, былі канфіксаваны ў скарб ў 1832 годзе за яго ўдзел у паўстанні 1830 г.

З "Отчетной ведомости с приложениями по Поречскому народному училищу за 1914-1915 гг.", накіраванай інспектару народных навучальняў Слонімскага павету, бачна, што сельская народная навучальня ў Парэччы была адчынена ў кастрычніку 1860 г.

Пэўна, яна месцілася ў прыстасаваным памяшканні, бо ў тым годзе сіламі сялян пачаў будавацца дом пад навучальню коштам 550 рублёў. 1 студзеня 1863 г. настаўнікам навучальні афіцыйна быў зацверджаны святар Аляксандр Гарачка. Ён вучыў сялянскіх дзяцей не толькі пісьму ды Закону Божаму, але садаводству і пчалярству. Жалаванне атрымоўваў ад сялян. Ён быў адным з першых вясковых настаўнікаў у Слонімскім павеце. Калі для будаўніцтва парэцкай навучальні не хапіла выдзеленых сродкаў, каб не сарваць яе ўвод, Гарачка ахвяраваў нават свае асабістыя грошы. 1 верасня 1865 г. будаўніцтва парэцкай навучальні было завершана. Тут месціліся два класы: адзін 9 х 8,75 і другі 8,75 х 4 аршыны. Апрача іх былі 4 пакоі і дзве кухні для вучнёўскага інтэрната. У 1864 годзе ў грамадскай народнай навучальні займаліся 10 хлопчыкаў. Дзяўчынкам тады лічылася "неприличным" вучыцца ў школе.

Настаўнікі і святары ў той час былі ключавымі фігурамі ў выхаванні маральных якасцяў у сялян, таму за імі быў установлены строгі паліцэйскі нагляд. Пра гэта сведчыць перапіска па гэтым пытанні ў 1875 годзе Гарадзенскага губернатара з павятовымі міравымі пасрэднікамі і спраўнікамі.

*"Циркулярно. Секретно. Г. Уездным исправникам. Предлагаю Г. Исправникам доставить мне именной список всех наставников народных училищ вверенных им уездов, сделав в списке против каждого из наставников заключение о поведении их нравственных качеств. При этом, в случае неодобрительной аттестации о ком-либо из наставников, объяснить обстоятельства, послужившие поводом к таковой аттестации. Свиты Его Величество Генерал Майор Зуров".*

У адказе Слонімскага уезднага спраўніка Заградзіна, пад наглядам якога ў павеце былі 2 прыходскія, 40 народных і 10 сельскіх навучальняў, паведамлялася, што 33 настаўнікі паводзяць сябе добра, у тым ліку і парэцкі А. Гарачка. Адзначалася, што настаўнік Ружанскай навучальні Андрэй Антонавіч Панасюк *"... поведения отличного с особенным усердием исполняет свои обязанность".* А вось настаўнік Дзітаўскай навучальні Рыгор Андрасюк *"... поведения неудовлетворительного, не соответствует своему назначению: по приговору Мирового судьи Брестского уезда, 1 участка от 24 мая 1873 г. приговорен за драку в пьяном виде аресту на 5 дней".* І яшчэ 4 настаўнікі *"привержены к пьянству, не соответствуют своему назначению, ибо подобное поведение в наставнике недопущено быть терпимым".*

Гарачка памёр у 1889 годзе. Яго змяніў Савіцкі Фёдар Іванавіч. Ён нарадзіўся 1 сакавіка 1868 года, скончыў Літоўскую духоўную семінарыю і з 22 верасня 1889 года быў святаром парэцкай царквы і настаўнікам парэцкай навучальні. З 1882 года навучальня стала двухкласнай. Савіцкі быў прызначаны законавучыцелем у парэцкай і бабыніцкай навучальнях і атрымліваў жалаванне па 120 рублёў у кожным з іх. Радай Гарадзенскай дырэкцыі ад 12 чэрвеня 1896 г. яму выказана шчырая падзяка за разумную і творчую працу па выкладанню Закона Божага ў школе. А 19 ліпеня 1897 г. трй жа Радай яму выказана падзяка за старанныя адносіны да выканання сваіх абавязкаў на пасадзе законавучыцеля парэцкай народнай навучальні. Ён працаваў да 1916 года, але пасля выгнання жыхароў парэцкай парафіі ў бежанства, быў прызваны ў войска ў якасці вайсковага святара. Далейшы лёс яго невядомы.

Доўгі час у парэцкай школе працаваў Анцута Касьма Цімафеевіч. Ён нарадзіўся 1 лістапада 1884 г. У 1902 годзе скончыў настаўніцкія курсы сельскагаспадарчай школы і пачаў працаваць настаўнікам. У 1906 годзе прызваны ў войска і звольнены ў запас у 1907 г. Пасаду першага настаўніка і загадчыка парэцкай двухкласнай навучальні заняў 1 лістапада 1913 года. Быў жанаты, меў трох дзяцей. Атрымліваў жалаванне 420 рублёў у год. Калі ў жніўні 1914 г. пачалася нямецка-руская вайна, ён у кастрычніку таго ж года быў прызваны ў армію. Яго жонка Лідзія яшчэ ў 1915 годзе працавала першым настаўнікам Бабыніцкай народнай навучальні (у 3 вярстах ад Парэчча). У канцы 1915 года выехала з дзецьмі ў бежанства. У 1939-1941 гг. іх сын працаваў настаўнікам матэматыкі ў парэцкай школе.

У 1914 г. другім настаўнікам у парэцкай навучальні быў Кастусік Восіп Сцяпанавіч. Ён нарадзіўся 23 студзеня 1894 года, быў халасцяком, жалаванне атрымліваў 360 рублёў у год.

Але, пэўна, самым адметным парэцкім настаўнікам быў Кісель Восіп Мацвеевіч. Ён нарадзіўся 23 сакавіка 1883 г. у вёсцы Волька (яна цяпер уваходзіць у склад Жыровіч) Слонімскага павету ў сялянскай сям'і. Маці Агата Казіміраўна паходзіла з роду Катовічаў. Памерла маладою, пакінуўшы шасцёра дзяцей. Для бацькі было цяжка нават пракарміць дзяцей, але ён здолеў даць ім адукацыю. Восіп скончыў з пахвальнай граматай Жыровіцкую народную навучальню, а затым у 1899 годзе – з пахвальным лістом Слонімскую павятовую навучальню з правам атрымання чыну. Як выдатніку вучобы, яму далі рэкамендацыю для паступлення ў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. У асабістай справе Кісяля В. М. захавалася такое абавязацельства: *"Я, нижеподписавшийся сын крестьянина Гродненской губернии Слонимского уезда Жировицкой волости местечка Жировиц Осип Матвеев Кисель даю настоящее обязательство Свислочской учительской семинарии в том, что если я по окончании курса буду признан достойным учительского места, то обязуюсь не поступать в вольноопределяющиеся, а прослужить за полученную стипендию узаконеное число лет в должности учителя народного училища; в противном случае обязуюсь уплатить деньги сполна, употребленные на моё содержание. Воспитанник Свислочской учительской семинарии Осип Кисель".* Адначасова тут ён скончыў яшчэ сельскагаспадарчыя курсы.

Гарадзенская дырэкцыя народных навучальняў 1 кастрычніка 1903 года прызначыла яго настаўнікам у Аляксееўскую навучальню Слонімскага павету, затым у 1905 годзе ён быў пераведзены ў Аляксандраўскую (Альберцінскую) навучальню, у 1906 г. – у Міжэвіцкую, у 1907 – у Здзітаўскую. Арача настаўніцкіх абавязкаў у навучальні, ён падрыхтаваў да экзаменаў сваю сястру Ганну, якая ў 1908 годзе паспяхова здала іх і атрымала званне настаўніцы царкоўна-прыходскай школы. Але, каб атрымаць пасаду вясковай настаўніцы, недастаткова было пасведчанне, трэба было яшчэ мець ад губернатара даведку аб лаяльнасці да існай улады. 18 чэрвеня 1908 г. Гарадзенскі губернатар сваім сакрэтным лістом да інспектара народных навучальняў 4 участка губерні паведаміў:

*"...Имею честь уведомить Ваше Высокоблагородие, что Анна Кисель за время проживания в Гродненской Губернии ни в чем предосудительном, как в нравственном, так и в политическом отношении замечена не была и к представлению ей должности учительницы с моей стороны препятствий не встречается. Губернатор (подпись)".*

Яна атрымала прызначэнне другога настаўніка ў парэцкую школу да брата, якога пасля гадовай працы другім настаўнікам Слонімскай двукласнай прыходскай навучальні, у 1909 годзе перавялі настаўнікам Парэцкай двухкласнай навучальні. 1 студзеня 1911 года Восіпа Кіселя зацвердзілі загадчыкам і першым настаўнікам гэтай навучальні.

Замест старога дома навучальні пад яго кіраўніцтвам у 1913 годзе пачалі будаваць у Парэччы прыгожую драўляную міністэрскую двухкласную навучальню. Штто яна сабой уяўляла, можна бачыць са справаздачы за 1914 год. У ёй адзначана, што школа пабудавана за казённыя 8242 рублі. Гэта памяшканне 12,2х8 сажняў і вышынёю каля 5 аршын. У ім былі 3 класы, бібліятэка, тры кватэры для настаўнікаў, 9 галандскіх печак. Апрача таго, дзве адрыны, два хлявы, пограб, падвал і паўдзесяціны зямлі. За школай былі замацаваны 4 вёскі: Парэчча, Задвор'е, Васілевічы і Ганькі. У іх налічвалася 2128 жыхароў, у тым ліку пісьменных-584. Дзетак школьнага ўзросту ад 8 да 14 гадоў было 258. Вучыліся 132 хлопчыкі і 9 дзяўчынак. У школе было 5 аддзяленняў. У першым аддзяленні было 20 вучняў; у другім – 15; у трэцім – 22; у чацвёртым – 17 і ў пятым – 11. Заняткі пачаліся 24 верасня. На ўтрыманне школы выдзялялася на год 1490 руб. Жалаванне першага настаўніка ў год складала 420 руб., другога – 360 руб., законавучыцеля – 120 руб, настаўніка гімнастыкі – 30 руб, вартаўніку плацілі 72 рублі. На кніжкі і вучэбныя дапаможнікі ішло 163 руб. Пры школе мелася бібліятэка. Яна была заснавана ў 1890 годзе і абслугоўвала вучняў і сялян. У ёй было 974 кніжкі, з іх 366 прызначаны для чытання сялянам. Бацькі за вучобу не плацілі, але ўсе сяляне павінны былі ссыпаць настаўнікам 8 чацвярцей (64 пуды) збожжа.

Восіп Кісель яшчэ ў 1903 годзе скончыў сельскагаспадарчыя курсы пры Свіслацкай семінарыі і з таго часу стаў апантаным садаводам і пчаляром. Пры Парэцкай школе ён заклаў сад на плошчы 1820 кв. сажняў, дзе расло 159 пладовых і 202 дэкаратыўныя дрэвы, 248 ягадных кустоў. Быў гадавальнік плошчаю 300 кв. сажняў.

У 1913 годзе Восіп Мацеевіч пасля заканчэння ў Петраградзе курсаў ручной працы па дрэву і металу пачаў хадатайнічаць аб адкрыцці рамесніцкай навучальні пры Парэцкай школе. Ён нават падключыў да гэтае справы інспектара народных навучальняў Слонімскага павету І. О. Пракаповіча, які звярнуўся ў Вільню да нейкай ўплывовай асобы аб дапамозе адкрыцця ў Парэччы такой навучальні. 20 верасня 1913 года інспектар піша гэтай асобе: *"Высокоуважаемая Юлия Осиповна. Ваш брат Григорий Осипович передал мне, что Вы при свидании с ним в Вильне изволили вспомнить о Вашем обещании... оказать содействие в деле открытия при Поречском 2-кл. училище Слонимского уезда, ремесленного отделения, предложив представить Вам по этому делу справку, что я исполняю с великой радостью... В этом деле изложено ходатайство об открытии при Поречском 2 кл. министерском училищи Слонимского уезда Гродненской губерни, в старом здании училища, для которого оканчивается постройкой новое здание, ремесленного отделения с двумя специальностями: по дереву и по металу... Ваш покорный слуга Прокопович".* Справа рушылася. Былі выдзелены 4500 рублёў на пераабсталяванне старога школьнага будынка ў рамесніцкую навучальню.

Але 7 лістапада 1913 года Восіпа Мацеевіча з павышэннем пераводзяць загадчыкам Казлоўшчынскай навучальні. Гэта адбылося па рэкамендацыі інспектара Пракаповіча, які 29 жніўня 1913 года пісаў: *"Поречский учитель Кисель, будучи весьма трудолюбивым и упорно настойчивым в достижении цели поднял Поречское училище в учебно-воспитательном отношении и благоустроил его. Только при его помощи удалось в один год устроить весьма приличное 3-х комнатное училищное здание, которое близится к приемке-сдаче. Инспектор Прокопович".* Ужо не Кісялём, а Анцутаю, які замяніў яго, быў падпісаны кантракт на 2499 рублёў з селянінам в. Сынкоўшчына Іванам Васілевічам Цімафейчыкам на перабудову старой школы пад рамесніцкую навучальню. Тэрмін выканання кантракту быў прызначаны да 1 верасня 1914 г. 13 траўня 1914 г. была праведзена інспектарская праверка Парэцкай навучальні, якая выявіла наступнае:

*"В новом 3-х комплектном училищном здании, построенном в 1914 г. помещены 3 класа, 2-ой и 3-ий класс в настоящее время не заняты. Готовы 1-му учителю 3 комнаты и кухня; 2-му учителю 2 комнаты и кухня; 3-му учителю 1 комната и кухня.*

*В училище...шла письменная работа. V отделение (4 ученика) решали задачу на все четыре действия над простыми и дэесятичными дробями: по частям целого найти целое (задачник Малинина и Буренина, задача № 2611); IV отделение (12 душ) решало задачу №2000 по тому же задачнику на все действия над простыми дробями; Ш отделение (6 душ) – на все действия над составными именованными числами с задачника Юревича №1743...*

*Из беседы с учениками по поводу использования класных работ, выяснилось, что ученики У отделения слабее разбираются в действиях над дробями, чем ученики IУ отделения в действиях над простыми дробями. У отделение докончает курс арифметики (проценты, пропорции) и успели повторить курс дробей...*

*В новооконченном здании остались недоконченными мелочи, с этим надо поторопиться, т.к. это лишает возможности другого подрядчика приступить, по заключительному контракту, к приспособлению старого училищного здания под ремесленное отделение.*

*Сегодня в саду училищном шла работа, шесть учеников производили глубокую вскопку, приготовляя места для питомника – рассадку сеянцев, имеющихся в том же училищном саду. Место для сеянцев (школка) устроено в особой загородке учителем Киселём, посев сделан преемником его – учителем Анцутою. Инспектор Прокопович".*

(Працяг у наступным нумары.)





Станіслаў Суднік

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Фронт пакаціўся на Захад, але ў лясах засталося шмат дызерціраў, былых паліцыянтаў, нават, немцаў і проста бандытаў. Іх называлі агульным словам "зялёныя". Пасля звычайнай вайны пачалася вайна грамадзянская. Сярод тых, хто волей абставінаў аказаўся ў лесе, можна выдзеліць тры арганізаваныя групы: група братоў Мазалеўскіх, група Барана ("бараны"), група Раманчука або Дэмуха, хаця каля Сейлавічаў з гэтай групы часцей дзейнічаў толькі Дэмух, як правіла ў адзіночку. Аддзелаў Арміі Краёвай каля Сейлавічаў і, наогул, на Нясвіжчыне не было. Укнізе "Антысавецкія рухі ў Беларусі. 1944 - 1956." (Менск, 1999) згадваецца толькі Дэмух.

Ідэалогія гэтых грапаў не вядомая, але дакладна вядома, што ўсе яны былі антысавецкія.

Браты Мазалеўскія былі з Бучных (засценак каля Бузуноў, кіламетраў сем ад Сейлавіч). На заключным этапе іхняя група налічвала 14 чалавек. Базавалася ў Кунаскім лесе. У іхняй групе быў адзін з Любкаў з Кунасы.

Дэмух (Дэмах) паходзіў з вёскі Квачы Нясвіжскага раёна. Франтавік, капітан Чырвонай Арміі, служыў у выведцы. З фронту вярнуўся моцна паранены, не мог працаваць. Каб неяк выжыць, пачаў гнаць самагонку на продаж. Міліцыя хутка пра гэта даведалася і панадзілася браць у Дэмуха самагонку, як у "свайго", вядома, бясплатна. Аднойчы, калі прыехала міліцыя, самагонкі не аказалася. П'яныя міліцыянты пачалі пагражаць зброяй. У сутычцы Дэмух вырваў пісталет, застрэліў аднаго з міліцыянтаў і ўцёк у лес. Пасля гэтага дарогі назад не было. Дэмух рабаваў пошты, крамы. Партызаніў да 1949 года. Часта бываў на Сейлавіцкіх хутарах. У траўні 1949 года ў баі з чэкістамі Дэмух быў паранены, трапіў у палон. Атрымаў 25 гадоў лагераў. Пасля вяртання ў Беларусь, неўзабаве памёр падчас аперацыі ў бальніцы.

Біяграфічных звестак пра Барана няма.

Для барацьбы з антысавецкімі групамі Савецкая ўлада адразу ж у 1944 годзе пачала ствараць аддзелы знішчальнікаў. ("страбкоў"). Майму бацьку ў1944-м было 17 гадоў, быў невысокага росту, у войска яго не забралі, але забралі ў знішчальнікі. Знішчальнікі дзейнічалі разам з салдатамі, вылоўлівалі дызерціраў, бандытаў, бадзяг. У адзін з дзён знішчальнікі налавілі вялікую групу дызерціраў. І сярод іх неяк трапіўся бацькаў равеснік з Сейлавіч Ёзік Чарнюк (мянушка Заяц). Трымалі дызерціраў у хаце Невяроўскіх, у Сейлавічах. Бацька стаяў на варце, а Заяц неяк развязаўся і кажа: "Слухай, Вацік, можа я ўцяку?" – "Пачакай, я адвярнуся". Заяц шуснуў у акно. То пасля, колькі жыў, і сам, і дзеці памяталі гэты выпадак і стараліся аддзячыць дабром. Бо ўсе разумелі, што, каб тады не ўцёк, то мог бы і згінуць.

Праз некаторы час ноччу знішчальнікаў акружыла група "зялёных" пад камандай Мазалеўскіх. Бой ішоў усю ноч. Адбіліся. У баі загінуў адзін салдат. У бацькі заклініла вінтоўку, то схапіў аўтамат забітага і страляў з яго. Назаўтра ўзмацнелыя сілы вайскоўцаў і знішчальнікаў загналі "зялёных" у лес, у сховань. Са схованi выкурылі дымам. Узялі 14 чалавек. 12 расстралялі каля лесу, а двух павялі судзіць. Расстралялі і абодвух Мазалеўскіх. Гісторыкі, якія займаюцца беларускай паваеннай партызанкай могуць запісаць, што група Мазалеўскіх спыніла існаванне ў канцы 1944 года.

Пасля вайны ў Сейлавічах аказалася шмат бежанцаў, пераважна смаленцаў. Яны жылі па-большасці на хутарах, працавалі выключна за кавалак хлеба, але іншага выйсця не было. Разам з тым ніхто з бежанцаў з голаду не памёр.

Сейлаўцы ўспамінаюць іх, як людзей мала прыстасаваных да гаспадаркі. Смаленцы не ўмелі есці верашчаку, не ўмелі варыць шурпаў, але не былі гультаямі і жылі з гаспадарамі мірна і ў поўнай згодзе.

У 1944 годзе быў аднаўлены Сейлавіцкі сельсавет. У склад сельсавета ўваходзілі: Сейлавічы (засценак і вёска), Андрушы, Кунаса, Бузуны, Бучныя, Ліпніцкія, Слаўкава, Караліна, Мікулічы, Прасмыкаўшчына, Фальваркоўцы (Фальбаркоўцы), Пагулянка, Ганусаўшчына, Вінклераўшчына.

Старшынём? сельсавету быў Вацлаў Хоміч. Ён круціўся паміж чырвонымі і зялёнымі, і, каб выжыць, палічыў за лепшае выехаць у Польшчу.

У 1946 годзе старшынём сельсавету быў прызначаны Іосіф Антонавіч Пажытка.

І. А. Пажытка нарадзіўся ў Кунасе ў 1920 годзе. Вучыўся ў Кунасе, потым у Сейлавічах. У 1940 годзе пайшоў у войска, у 1946 дэмабілізаваўся.

У 1948 годзе І. А. Пажытка паехаў у лес аглядаць дрэва на будаўніцтва школы, дзе і быў забіты групай Барана.

У 1945 годзе, не гледзячы на тое, што лясы не былі цалкам ачышчаны, і ў Кунаскім, Бузуноўскім лясах ды Госцібне працягвалі дзейнічаць група Барана і Дэмух, знішчальнікаў распусцілі.

Дзяржаве ўпала ў вока моладзь, якая падрасла за час вайны. Савецкая ўлада не надта давярала тым, хто вырас пад немцам, таму ў 1945 годзе вырашыла накіроўваць іх ужо не ў войска, а на аднаўленне шахтаў Данбасу. Туды ж былі накіраваны і цягнікі мазурыкаў (крымінальнікаў). Статус рабочых быў ні то вайсковы, ні то турэмны. Усе працавалі пад аховай, як у турме. Але плацілі зарплату і не благую. Хоць многія тую зарплату прайгравалі ў карты крымінальнікам. Мой бацька таксама трапіў ў гэтыя шахты.

Агледзеўшыся, праз колькі месяцаў хлопцы пачалі ўцякаць. Іх лавілі, каралі, а яны ўцякалі зноў. Бацька са сваім сябрам Антак Зубовічам вырашылі ўцякаць у ноч перад зарплатай. Ахова атрымоўвала зарплату на дзень раней і ў гэтую ноч гуляла з разлікам на тое, што перад зарплатай ніхто не ўцячэ.

Да Кіева дабраліся паспяхова. Без дакументаў у пасляваенны час. Як звычайна, самай прадажнай аказалася міліцыя. Уцекачы на вакзале падыходзілі да міліцыянера і прасілі купіць білет, даючы пры гэтым двайную суму грошай.

У Кіеве разбіліся. Бацька паехаў на Львоў, Антак на Гомель. Бацька даехаў на тыдзень раней. А тут ужо быў абвешчаны вышук. Слалі павестку за павесткай – давялося хавацца. Такая вось савецкая рэчаіснасць: паўгода назад лавіў "зялёных", зараз давялося хавацца самому.

Злавілі бацьку класічна па-беларуску, у полі, калі выйшаў сеяць жыта. Адыйшоўся далёка ад кустоў, і міліцыя на конях дагнала. Завезлі ў Нясвіж. Але падпала нейкая амністыя. Далі "Ваенны білет". Пасля забралі на зборы на 3 месяцы ў Горадню. Тым доўг перад Савецкай уладай быў сплочаны.

Не паспелі Сейлвічы акрыяць ад вайны, як на вёску напала новая бяда. Савецкая ўлада абрынула на аднаасобнікаў, якіх было 100%, нявыносны груз падаткаў, аблігацый, паставак, павіннасцяў. Пачалася падрыхтоўка да калектывізацыі.

Калектывізацыю Сейлавічы сустрэлі, як чарговы дождж, ці чарговы снег, ад якога часова схавацца можна, але ўсё жыццё не прасядзіш. Вайна значна падсекла дабрабыт і шляхты, і сялян. Падаткі яшчэ падраўнялі. Таму ніякага масавага супраціву калектывізацыі не было. Капыльскі раён быў побач. Досвед вынікаў супраціву быў, як на далоні. У шмат каго сваякі аказаліся раскулачанымі, сасланымі. Паўпіраліся, пацягнулі час і пачалі ўступаць.

22 красавіка 1947 года, у дзень нараджэння Леніна быў аднаўлены калгас імя Андрэева ў Кунасе. У калгас уступіла 12 чалавек. Было трое коней.

Першым старшынём быў абраны **Пяцігор Мацей Васілевіч.** Нарадзіўся 22.01.1900 года ў Кунасе. Бацька памёр, калі яму было 8 гадоў. Вучыўся ў прыходскай школе. Закончыў 4 класы. Служыў у памешчыка. У гады вайны партызаніў у аддзеле імя Жданава. Дэмабілізаваўся ў 1944 годзе. Працаваў у Стаўпецкім раёне на лесанарыхтоўках. З 1945 года дарожны майстар у Нясвіжскім раёне.

3 траўня 1947 года старшыня калгаса Пяцігор М. В. і член праўлення Багдановіч М. А. везлі пшаніцу з Ганусаўскай доследнай станцыі і былі схоплены бандай Барана. Спачатку старшыню хацелі спаліць на кастры, але потым абодвух прывязалі да дрэва і пратрымалі цэлы дзень. Аднак вечарам чамусьці адпусцілі. У 1948 годзе група Барана напала на сам калгас, забітых не было. Пасля 1948 года звестак пра далейшую дзейнасць "бараноў" у Сейлавічах не зафіксавана. Таму пакуль што гісторыкі беларускай паваеннай партызанкі могуць занатаваць гады дзейнасці групы Барана: 1944 - 1948 г.г.

У 1948 годзе калгасу імя Андрэева ўручаны акт на вечнае карыстанне зямлёй. У 1949 годзе калгас атрымаў першую грузавую машыну і першым шафёрам на ёй быў Багдановіч Юльян Мікалаевіч. У 1950 годзе ў калгас уступілі амаль усе жыхары Кунасы.

Пяцігора на пасадзе старшыні калгаса імя Андрэва замяніў Лакціёнаў Іван Васілевіч.

У верасні 1948 года быў утвораны калгас імя Ф.Э. Дзяржынскага ў засценку Сейлавічы. У калгас уступіла 26 шляхочых гаспадарак. Старшынём арцелі быў абраны Сцяпан Петрашэўскі. Неўзабаве шляхціца Петрашэўскага замяніў Руднёў Еўдакім Васілевіч, ураджэнец Смаленскай вобласці, былы ўдзельнік вайны, удзельнік барацьбы супраць паваеннай партызанкі. Быў жанаты на шляхцянцы, меў трое дзяцей. Аднак неўзабаве Е. Руднёў быў арыштаваны. У сярэдзіне траўня адбыўся суд. Як паведамляла раённая газета "Чырвоны сцяг": *"Руднёў злосна парушыў статут арцелі і краў калгаснае дабро. Па віне Руднёва ў калгасе ў 1950-1951 гадах дрэнна ўтрымлівалася жывёла, меўся падзёж. Нанесена стратаў на 18 890 рублёў. Суд прыгаварыў Е. Руднёва да 4 гадоў пазбаўлення волі".* Больш у Сейлавічы Руднёў не вярнуўся, жыў у Арлоўскай вобласці.

У жніўні 1949 года ў Андрушах быў утвораны калгас імя Куйбышава. У калгас уступіла 82 гаспадаркі. Старшынём калгасу быў абраны Бутрымовіч Аляксандр Адамавіч. Пазней ён выехаў у Карэльскую АССР. З першых дзён трактарыстам працаваў Таратута Іосіф Іванавіч.

У 1949 годзе ў вёсцы Сейлавічы быў утвораны калгас "Перамога". Першым старшынём быў абраны Хвіцька Вікенці Іосіфавіч. Пазней працаваў кавалём у калгасе "Світанне".

У 1950 годзе ў засценку Ліпніцкія быў утвораны калгас "8-е сакавіка". Першым старшынём быў абраны Татур Антон Антонавіч, пазней працаваў рэманцёрам Ланскага БМУ.

Падчас калектывізацыі ў Сейлавічах было запісана ў кулацкія каля дзесятка сямей, у прыватнасці быў запісаны ў кулакі Віктусь Некраш. Аднак быў вывезены толькі Паўлік Тронца, адзін з чатырох мельнікаў. Братоў яго не зачапілі. Тронца прабыў у высылцы не доўга. Хоць быў праваслаўным, запісаўся палякам і неўзабаве выехаў у Польшчу.

У гэты час праявілася спрадвечнае адзінства сейлаўцаў. Нягледзячы на тое, што вёска двухканфесійная, што адны былі ў партызанах, а іншыя ў паліцыі, супраць савецкай улады сталі адным фронтам. Ніхто нікога не ўдаў. Ніхто не пісаў даносаў. Усе былі заклапочаны адным, як выжыць?

Згадваецца дыялог двух старых дзядзькоў, падслуханы ў аўтобусе:

***- Дык ты ў калгас уступіў?***

***- Уступіў.***

***- І сам уступіў?***

***- Сам, яшчэ пабегаў, каб узялі.***

***- І з млынам уступіў?***

***- І з млынам, яшчэ вядро самагонкі паставіў, каб хаця ўзялі.***

2 ліпеня 1951 года ўсе гэтыя пяць калгасаў аб'ядналіся ў адзін калгас імя Андрэева. Старшынём новага калгасу стаў Лакціёнаў Іван Васілевіч, які працаваў на гэтай пасадзе да 1962 года. Намеснікам стаў Пяцігор Мацвей Васілевіч, які неўзабаве перайшоў старшынём калгасу "Слава".

У 1951 годзе ў калгасе было 518 калгасных двароў, 998 працаздольных калгаснікаў, каля 10 брыгадаў, 2503 га ворыўнай зямлі. Нясвіжская газета "Чырвоны сцяг" за 1951 год прыводзіць лічбу 4083 га агульных зямель, але гэтая лічба выклікае сумненне.

Старшынём сельсавету быў Падамацька, сакратаром -- Дашка. Гэтую фігуру ў сейлавіцкім жыцці нельга не згадаць. Яму сейлаўцы абавязаны рознымі парадоксамі і недарэчнасцямі ў сваіх дакументах, калі родныя браты атрымоўвалі розныя прозвішчы, брат з сястрою мелі розныя нацыянальнасці, калі ўсе Юркі былі запісаны Георгіямі і г. д. Узнікла нават чыста сейлавіцкая прымаўка: "Як Дашка запісаў..." А, наогул то зла за гэта на Дашку ніхто не трымаў, бо глядзелі ў тыя дакументы пару раз за жыццё.

Дырэктарам школы быў Мікалай Кіеня.

У 1951 годзе ўпершыню загаварылі пра каларадскага жука. Самога жука ў Сейлавічах не бачылі да сярэдзіны 60-х гадоў. Потым з'явіўся раптам і ў вялікай колькасці.

Калгаснае жыццё таго часу было шэрагам самых розных кампаній. Звычайная штодзённая праца была не для савецкіх людзей. Ім, дакладней, іхнім правадырам увесь час патрэбны былі подзвігі.

У 1952 годзе ў Беларусі, у тым ліку ў Сейлавічах пачалі сеяць каксагыз (кок-сагыз). Каксагыз -- каўчуканос з невялікім утрыманнем каўчуку. Ён патрабаваў шмат вільгаці, ў яго сеялі на балотах, у прыватнасці, паміж вёскай і Касцяневам. Стратэгічна каксагыз вырашаў дзве задачы: даць каўчук і асушыць балоты. Але з гэтага нічога не выйшла, кампанія сышла на нішто.

З 1952 года ў Сейлавічах пачалі сеяць цукровыя буракі. У адрозненні ад каксагызу буракі ўвайшлі ў жыццё Сейлавіч на паўстагоддзя і не збіраюцца пакідаць сейлавіцкія палеткі. Догляд буракоў ішоў звеннямі. Савецкая ўлада трымалася за гэтыя звенні, як элемент сацыялістычнай арганізацыі працы, да апошняга. Спатрэбілася каля 10 гадоў, каб зразумець іх неперспектыўнасць ва ўмовах Беларусі. На працягу гэтых дзесяці гадоў буракі чуць ні кожны год замярзалі ў полі, але ідэі сацыялізму былі важней за ўраджай. Адмена ж звеннняў недзе ў пачатку 60-х і пераход на індывідульныя, а дакладней, сямейныя дзялкі вывеў на поле і старых, і малых. Колькасць рабочых рук на праполцы і церабенні буракоў вырасла ў 3-5 разоў. Але, падкрэслю, на разуменне гэтага спатрэбіліся 10 гадоў. Гэта ў Сейлавічах. У іншых месцах магло быць па-іншаму.

*(Працяг у наст. нумары.)*

Вітаўт МАРТЫНЕНКА

# РОК - МУЗЫКА: КРЫТЭРЫІ КРЫТЫКІ

## (З цыклу лекцыяў, адрынутых Беларускім калегіюмам)

Рок-музыка ў Беларусі ёсць, гэта ўжо даўно факт, а вось ці ёсць музычная крытыка ў гэтай плыні? Сёй-той здзівіцца такому пытанню: ну як жа, менавіта ў Беларусі выходзяць аўтарытэтныя па ўсім СНГ выданні "Музыкальная газета", "Музыкальный журнал", "Джаз-квадрат", не кажучы ўжо пра больш сціплыя праекты кшталту "Музыка для всех" і нават пра тое, што пра музыку (у тым ліку і рок) пішуць усе, каму не лянота: маладзёжныя і дзіцячыя выданні, літаратурныя і партыйныя, жаночыя і грамадска-палітычныя. Але што пішуць? Ці карыстаюцца яны трывалымі мастацкімі крытэрыямі, якія дапамагаюць слухачу грунтоўна ўвайсці ў свет музыкі?

Вельмі характэрны прыклад – публікацыі пра музыку нейкага ананімнага Слухача, якімі гадоў ужо пяць стала нервуе сваіх чытачоў газета "Наша ніва". У аб'ёмнай, ледзь не на цэлую старонку "рэцэнзіі" пра адзін з альбомаў "Вольныя танцы" я неяк, міжволі задаўшыўся мэтай, налічыў аж 80 (па 2-3 ў кожным абзацы) галаслоўных ацэнак кшталту "падабалася – не падабалася".

А разгарніце любы нумар "Музыкальнай газеты", вельмі папулярнай у моладзевым асяродку: ***приятная мелодия – неприятная мелодия, красивая – некрасивая, понравилось – не понравилось.***

Ды вось хоць бы цытата з № 29 за 2001 год: ***"Эта оптимистическая композиция способна запросто сотворить атмосферу праздника, создать хорошее настроение".***

Сказана нямала, а паспрабуйце адгадаць, пра што ідзе гутарка: мо гэта славутая ода "Радасці" з IX сімфоніі Бетховена? Ці магчыма размова пра каларытную музыку японца Кітаро?

Ды не, цытата, аказваецца, пра банальны танцавальна-папсовы зборнік. Вось тады і разумееш, што мела на ўвазе чэшская пісьменніца Марыя Пуйманава, якая ў сваім рамане "Гульня з агнём" слушна зазначыла: крытык – не настаўнік пачатковай школы, каб выстаўляць адзнакі. Ягоная задача ў тым, каб суаднесці твор мастацтва з рэаламі жыцця.

Цяпер выходзіць шмат альбомаў беларускага року на касетах і зграбных кампакт-дысках. Якая глеба для аналізу! У тым ліку і для аналізу нашага жыцця. Хаця б такога аналізу, які я, захоплены ў 80-я гады польскім рокам, чытаў у часопісах **"Na przelaj"**. **"Magazyn muzyczny Jazz"** ды іншых. Гэта былі не банальныя паплёўванні нейкіх недарослых крытыканаў у розныя бакі, а трывалае асэнсаванне рэальнага жыцця праз рок-прызму. Наша папулярная музыка таксама можа стаць крыніцай сучасных фальклёрных асэнсаванняў, бо ці ж не "НРМ" зрабіла пра нас дзіўнае адкрыццё "дурны народ, ён любіць жыць хрэнова", ці не Ален засведчыў, што "рыфмы – мова нябёс, а пісаць – гэта лёс", ці не гарадзенскім панкам з "Deviation" прыйшло ў галаў назіранне, што "мы – еўрапейскія апачы, ну а каўбоі – гэта вы"... А як сустрэла гэта наша музычная прэса? Вось вам вельмі характэрная цытата:

***"Во, Ален з'явіўся! Калісьці ў маладзёвых выданнях яго называлі першай праўдзівай нацыянальнай поп-зоркай, але свяціла тая зорка з паўночнага Навапалацку пядоўга, бо неўзабаве перабралася бліжэй да крыніцаў натхнення, за акіян, дзе з дапамогай фонду Орса-Рамана выдала кампакт-дыск. Даўно мне не даводзілася чуць так нядбайна ўвасобленыя песні".***

Гэты бессэнсоўны сверб, як можна здагадацца паводле стылю, ад "Нашай нівы". Але давайце возьмем іншы аспект, каб хоць было з чым параўнаць. Дык вось – "Наша ніва":

***"Асобнай гутаркі заслугоўвае вокладка альбома. Я разумею: нацыянальная папса. Але фінансаваць гэты ўбогі, сіроцкі палёт творчай фантазіі за кошт і без таго не дужа багатай беларускай эміграцыі абсурдна".***

Які настрой? Бадай, у зусім іншым настроі пісаў пра тое самае аўтар газеты "Беларуская маладзёжная":

***"Менавіта амерыканскія беларусы вырашылі падтрымаць Алена, відаць таму, што ім імпануюць мяккія, глыбока нацыянальныя па мелодыцы песні Алена-кампазітара. Да таго ж знакаміты Данчык пакуль не запісвае новых песень, заняты іншай творчай дзейнасцю, і для эміграцкага асяроддзя сярэдняга веку стварыўся пэўны музычны вакуум. Яго і спрабавалі запоўніць фундатары Алена."***

Здавалася б, публікацыя на публікацыю – і, дзякуючы процілеглым асабістым думкам вынік для чытача роўна нулю. Хіба ў гэтым сэнс крытыкі? Хіба ў дачыненні да той жа попмузыкі Алена болей няма пра што пагаварыць? А між тым, як піша часопіс "Студэнцкая думка" з гэтай жа нагоды: ***"Адны памятаюць Алена праз хуліганскія песенькі пачатку 90-х пра Алісу – прыгожую дзяўчынку з сексуальным адхіленнем, другім запалі ў душу палымяныя творы пра гістарычных герояў змагання за волю Беларусі, а трэція прыгадаюць кар'еру Алена попзоркі".***

Дык вось, аказваецца, ёсць пра што пагаварыць. Ну і пагаварыў бы, рок-крытык, а сентэнцыі ***"падабаецца – не падабаецца"*** кожны слухач зробіць для сябе сам.

Я ведаю шмат людзей, якім не падабаюцца "Балахоўскія песні" Алена (раней усе яны сядзелі ў цэкоўскіх кабінетах), але хіба гэта крытэрый творчай значнасці? Ні за, ні супраць! Вось каб крытык падзяліўся сваім досведам, сваімі ілюзіямі на гэтую тэму, ён бы і сам стаў бліжэй да чытача, і наблізіў бы музыку да слухача... Або раз'яднаў іх... Але выбар канчатковых адзнак толькі за кожным слухачом.

Крытык – гэта не той, хто брэша, а той, хто аналізуе, карыстаючыся трывалымі крытэрыямі, а не асабістым настроем. Перасычанасць рэцэнзій павучальнымі заўвагамі – гэта зусім не прыкмета грунтоўнай крытыкі таксама. Яскравы прыклад – нейкая Юлія Андрэева з той жа "Нашай нівы", якая накідваецца (вельмі грозна) і на Забэйду-Суміцкага, і на спробу папулярных рок-музыкантаў адрадзіць колісь забароненыя беларускія песні ў альбоме "Я нарадзіўся тут". Толькі ці ж не ведаем мы, што Моська, якая брэша на слана, зусім не волат, а ў крытыцы – не гігант думкі.

Зразумела, нават М. Забэйда-Суміцкі не бязгрэшны, бо, як мы ведаем, адзіны дасканалы толькі Ісус Хрыстос. Але якія крытэрыі вылучае Ю. Андрэева? Ды тыя самыя адзнакі пачатковай школы: ***"Конь бяжыць", "Ой рана-рана" – гэта сапраўныя песенныя шэдэўры, а іншыя творы – гэта нудныя, загрувашчаныя апрацоўкі, дзе на кожным кроку відаць сляды занадта руплівага вывучэння расейскіх клясыкаў".***

Чаму крытык так шчодра дзеліцца сваім асабістым нудным настроем з нагоды ўласнага ж пільнага вывучэння расейскіх *клясыкаў*. А параўнанне з расейскай класікай ледзь не галоўны канёк усёй ейнай шматслоўнай "рэцэнзіі".

А вось яшчэ адзін козыр "рэцэнзенткі":

***"Укладальнікі дыска не ўлічылі, што існуе вялікая розніца паміж аранжаваннем і апрацоўкай, напісаўшы ўсюды "аранжыроўка".***

І далей ў сваю падтрымку яна дае расейскія трактоўкі вядомых тэрмінаў, хоць любы еўрапейскі слоўнік дае тлумачэнне простае: ***"Аранжыроўка (фр.) – творчая апрацоўка твору, якая адрозніваецца ад першаснай версіі".***

Як бачыце, падставы для крытыкі няма, таму замест крытыкі мы чуем моськін брэх, бо гора-крытык заўсёды знойдзе прычыну для гэтага.

А яшчэ такія крытыкі не цураюцца учапіцца за паліцыйнае дассе артыста (спевака або кампазітара). Вось цытата з "Нашай нівы":

***"Першы раманс – першая ненспадзяванка: хто такі Галкоўскі? Нядоўгае корпанне ў энцыклапедыі і адказ гатовы – літоўскі і беларускі кампазітар, народны артыст Літвы, прафесар Літоўскай кансерваторыі, ураджэнец Вільні".***

Усім гэтым аўтар хацела давесці, нібыта не надта беларускі дыск трапіў у серыю "Беларускі музычны архіў", хаця б па сутнасці творчасці Кастуся Галкоўскага трэба было пачынаць з таго, што ён па нацыянальнасці беларус. Дый не ён, а такія вось ваяры прэсы вінаватыя, што народ стрываў, калі Сталін аддаў беларускую Вільню летувісам.

А ваяры працуюць і сёння. Вось рэцэнзія Ю. Андрэевай на дыск "Я нарадзіўся тут" гуртоў "Крыві" і "НРМ". Тут таксама знойдзем "сляды вывучэння рас ійскіх першакрыніц", за якія крытыкаваўся Забэйда-Суміцкі. Юлія Андрэева піша:

***"Расейцы ў сваіх "Старых песнях о главном" настальгуюць па той мінуўшчыне, якой яны ганарацца, а нашую мінуўшчыну песняры савецкага "ўчора" адпрэчваюць."***

Маўляў, не кацiць Юліі Андрэевай грандж-версія славутай песні "Радзіма мая дарагая", але хто ж яе адпрэчвае? Вось яна і накідваецца агулам і на стваральнікаў альбома: ***"Вось у буклеце Дзімачка Вайцюшкевіч у 3 гады – фотакртка з сямейнага альбому, а вось ён жа – крышачку старэйшы. А вось Алезіс і Лявон, крыху далей – увесь "НРМ". Нашто ўсё гэтае дзяцінства? Каб адчуць сябе часткаю гісторыі?"***

Во, аказваецца, якая ганьба: Андрэевай не падабаецца, што беларусы хочуць адчуваць сябе часткаю беларускай гісторыі! Дык не аддавайце ж святыню псам. Не давайце чужынцам гаспадарыць у вашай хаце.

А сцебануць беларусаў можна і злёгку музычнымі крытэрыямі (або прэтэнзіямі): ***"Надта спадабалася песня на словы Канстанцыі Буйло "Люблю наш край". Аднак, каб праспяваць яе ў блюзавым стылі, трэ было спачатку гэтаму навучыцца".***

Нібыта сур'ёзны закід, але ў чым ягоная сутнасць? У чым праблема, раз песня аж "надта спадабалася"? Мо Вераніка Круглова не надта нагадвае Білі Голідэй? Але ж і Білі Голідэй гадоў 15 давялося спяваць бясплатна, бо ніхто не прызнаваў ейны талент. Дый Вераніка – не Білі, хоць яе і ***білі*** розныя Андрэевы ды ананімныя рэцэнзенты.

Калі вы заўважылі, нешта я часта тапчу рэцэнзентаў "Нашай нівы", хоць шмат хто з іншых недалёка адышоў. Але ў "НН" гэтая хвароба стала настолькі яўнай, што нават чытачы самі скардзяцца, але аргументы вылучаюць такія ж хворыя, як і сама газета: "У кожным выпадку, - піша Максім Восіпаў з Віцебска ў № 7 за 12.II.20 , - я не супраць крытыкі. Крытыка спрыяе дасканаласці. Але ў выпадку з музычнымі рэцэнзіямі крытыка ўсё ж мусіць быць адным з гатункаў рэкламы, спрыяць узнікненню цікавасці, а не знішчэнню яе."

Хоць апошняя выснова слушная, але аргументацыя абсурдная, бо рэклама на пэўным этапе знішчае цікавасць. Больш слушныя назіранні знайшоў я ў газеце "Згода" № 27 за 14.VII. 2001: ***"Вечнае сутыкненне крытэрыяў мастацкасці і прафесійнасці, поўная адсутнасць аналітычнай рок-крытыкі, якую з сумнеўным поспехам замяняе рэкламнае радкагонства музычнай прэсы – усё гэта вядзе да перараджэння мас-культуры ў аморфны пазакультурніцкіх субстрат".***

І вось я падышоў да апошняга пункту нашай гутаркі – якія ж на маю думку крытэрыі дадуць рэальны поспех рэцэнзенту і мастацтву наогул? Намінальна яны простыя:

***1. Мастацкасць твора (аналіз ягоных культурных кантэкстаў, крыніц уплыву і высноваў-вытокаў).***

***2. Прафесійнасць (гэта не абавязкова адпаведнасць пэўным узорам, а здольнасць аргументаванай лакалізацыі сваіх здольнасцяў).***

***3. Рэкламны антураж і падмацунак (былыя заслугі, рэйтынг, аўтарытэт).***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснав****льнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 5. 11. 2001 г.
Наклад 3800 асобнікаў. Замова № 2540.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 302 руб., 3 мес.- 906 руб.
***Кошт у розніцу:*** 80 руб.